# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 50 (720) 14 СНЕЖНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

# БГКТ

## У СЯМЯЦІЦКІМ АДДЗЕЛЕ

19 лістапада адбылося пасяджэнне прэзідыума Сямяціцкага аддзела ў Мілейчыцах. Быў абмеркаваны і прыняты план працы аддзела, у якім прадугледжваецца шмат мерапрыемстваў, звязаных з адзначэннем 100-ай гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна. Другім пунктам пасяджэння было абмеркаванне ўдзелу таварыства ў агульнапольскім конкурсе самадзейных калектываў. Прысутныя вырашалі таксама пытанне, як уключыцца ў Сямяціцкім павеце ў конкурс на савецкую песню і як у гэтым конкурсе выэкспанаваць песню беларускую.

## ХРАБАЛОЎСКІ ГУРТОК

Гурток Беларускага таварыства ў Храбалах (Бельскі павет) налічвае 12 членаў. Старшынёй яго з'яўляецца Яўгенія Хількевіч. Нядаўна адбыўся сход гуртка, на якім члены абмяркоўвалі магчымасці больш актыўнай культурна-асветнай дзейнасці. Гурток пастанавіў падрыхтаваць насценгазету аб Леніне, арганізаваць драмгурток, а таксама нешта зрабіць, выкарыстоўваючы мясцовы фальклор. Ва ўсіх гэтых пачыраннях будзе памагаць гуртку мясцовая настаўніца Яўгенія Дамброўская.

## ГУРТОК БГКТ і ЗМВ

У Гаркавічах на Сакольшчыне да гуртка БГКТ і ЗМВ належаць тыя самыя члены. Нават той самы тут старшыня, якім з'яўляецца настаўнік Іван Аўгустынчык. На сходзе абмяркоўваюцца тут і справы БГКТ і справы ЗМВ. Зрэшты вельмі часта яны пакрываюцца, бо датычаць культурна-асветнай дзейнасці.

## АЎТАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ

21 лістапада Сакрат Яновіч меў першую аўтарскую сустрэчу для членаў і сімпатыкаў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Коратка расказаў ён аб сваёй літаратурнай працы, а пасля прачытаў некалькі апавяданняў са сваёй нядаўна выданай кніжкі пад загалоўкам «Загоны».

У канцы кастрычніка Віктар Швед выязджаў у Дуброўскі павет і чытаў свае вершы ў школе ў Сухадоліне. Школьнікі і настаўнікі слухалі паэта з вялікім зацікаўленнем. Многія выразілі жаданне набыць яго кніжку «Жыццёвыя сцежкі».

## СПРАВЫ БЕЛАРУСКАГА ШКОЛЬНІЦТВА

Ад першага снежня пачала працаваць секцыя беларускага школьніцтва. Кіраўніком гэтай секцыі з'яўляецца мгр Васіль Сакоўскі, выкладчык беларускай мовы ў агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Секцыя скліча ў першым квартале 1970 года нараду ўсіх выкладчыкаў беларускай мовы на Беласточчыне.

11 снежня ў Беластоку адбылася канферэнцыя ўсіх кіраўнікоў школ, у якіх выкладаецца беларуская мова. (Аб ёй шырэй яшчэ будзем пісаць).

У пачатку студзеня секцыя беларускага школьніцтва арганізуе нараду кіраўнікоў секцый беларускай мовы пры павятовых метадычных цэнтрах з удзелам асветных улад ваяводства і актывам ГП БГКТ. (мх)



ДАЗВОЛЬ Фота Цаф — Сянько

Я забяру з сабою гэты белы снег,
сляды на снезе, а над снегам ўсмешку,
пах валасоў тваіх і сосен белавежскіх,
самкнутых белых рук гарачы круг
і гэтую зару, бяссонную і грэшную, —
дазволь, з сабой у горад забяру.

Міхась Рудкоўскі

хроніка дружбы




У нашай хроніцы дружбы стараемся і будзем старацца паказваць вачыма людзей, як ідэя польска-савецкай дружбы расла і паглыблялася. Як здабывала сабе цяперашняе галоўнае значэнне ў жыцці, абычаях, палітыцы.

З выпадку XI ваяводскага з'езда ТППР у Беластоку, пастанавілі мы адыйсці сёння ад прынятай храналогіі і паказаць цяперашні дзень ідэі польска-савецкай дружбы. Абаперліся ў гэтым на матэрыяле XI ваяводскага з'езда ТППР у Беластоку, які адбыўся ў канцы лістапада г.г.

**Справаздачны перыяд...**

ТППР ахоплівае два апошнія гады, паміж X і XI з'ездамі. Ён багаты далейшымі поспехамі ў дзейнасці таварыства. Ён быў багаты перш за ўсё знамянальнымі падзеямі: 50 гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 25 гадавінай ПНР, 50-цігоддзем Адраджэння Польскай Дзяржавы, 20-цігоддзем аб'яднання польскага рабочага руху, V-тым з'ездам ПАРП, выбарамі ў сейм і рады нарадовыя. На дзеянні ТППР у гэтым перыядзе лёг адбітак гэтых вялікіх здарэнняў.

**Лектарскія формы...**

гэта — даклады, гутаркі, сустрэчы. Пашырыліся яны асабліва з выпадку 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Лектары Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку разам з павятовымі лектарамі за два апошнія гады падрыхтавалі і правялі 4720 дакладаў. У апошнія гады нарадзілася форма пастаянных дакладчых пунктаў, напр. у клубе ТППР у Беластоку існуе такі пункт, існуе ў спулдзельні кравецкай «Покуй» у Беластоку, у святліцы ў Старасельцах, у пачатковай школе ў Семяноўцы, Гайнаўскага павета.

**Непасрэдныя кантакты...**

з савецкімі людзьмі ўвайшлі ўжо ў нашу традыцыю. Спрыяе гэтаму прыгранічны абмен з Гродзеншчынай і Літвой. Нават прыгранічныя кантакты ўсходніх паветаў з замежнымі паветамі беларускімі маюць вялікае значэнне для ўмацавання дружбы.

Асабліва многа сустрэч з прадстаўнікамі савецкага пасольства, з савецкімі афіцэрамі, з журналістамі і вучонымі, арганізавала Ваяводскае праўленне ТППР за апошнія два гады сваёй дзейнасці (разам гэтых сустрэч справаздача падае 772).

**Клуб ТППР...**

які існуе пры Ваяводскім праўленні, вядзе шырокую культурна-асветную дзейнасць. Ён дастаўляе самыя новыя і цікавыя матэрыялы аб СССР усім зацікаўленым. За два гады ён апрацаваў і выдаў друкам 7 слоўна-музычных мантажоў, звязаных з успомненымі вялікімі гадавінамі. Адзін з мантажоў прысвечаны сотай гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Леніна.

Клуб папулярызуе навучанне рускай мовы для моладзі і дарослых. Вядзе пастаянны пункт навучання рускай мовы настаўнікаў.

Клуб штогод праводзіць конкурс на савецкую песню. Удзел моладзі і дарослых у гэтым удзячным конкурсе павялічваецца з году ў год (у 1969 годзе да яго прыступіла 5348 асоб).

Клуб вядзе розныя іншыя конкурсы: дэкламатарскі на тэму «Польская, руская і савецкая паэзія дружбы і братэрства» (прыняло ў ім удзел у 1968 годзе 13 500 вучняў). Чытальніцкія конкурсы на тэмы: «Ленін — Рэвалюцыя — Польшча», «Дні, якія ўскалыхнулі

Працяг на стар. 4

# Дзень настаўніка ў Гайнаўцы

Гайнаўка ўрачыста святкавала Дзень настаўніка. Спецыяльна пакліканы камітэт (узначаліў яго першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі) апрацаваў вельмі цікавую праграму. 250 настаўнікаў усіх школ было запрошаных у Гайнаўку. З самай раніцы настаўнікі паклалі вянкі і кветкі на магілах савецкіх салдат, якія загінулі за вызваленне Гайнаўшчыны. Каля адзінаццатай гадзіны ў старанна ўпрыгожаным доме культуры «Гурнік» адбылася акадэмія.

Аркестр адыграў дзяржаўны гімн. Міхась Паскробка, які вёў акадэмію, пасля ўступнага слова аб'явіў, што Рада Дзяржавы для пятнаццаціасабовай групы настаўнікаў прызнала высокія ўзнагароды. Уручаў іх старшыня Павятовай рады нарадовай Аляксандр Хілецкі. Ітак: Стэфанія Нецяеўская з Гайнаўкі атрымала Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы. Залатымі Крыжамі Заслугі ўзнагароджаны: Тадэуш Бергер, Аляксандр Самайлюк, Анастасія Тропак і Тамара Волк-Левановіч (усе з Гайнаўкі); Сярэбраныя Крыжы Заслугі атрымалі: Генрыка Кульчакевіч з Чыжоў, Казімір Амельянчук з Нараўкі, Вера Новік з Гайнаўкі і Станіслава Шпаковіч з Белавежы. Бронзавыя Крыжы Заслугі атрымалі: Андрэй Данілюк з Гайнаўкі, Яўген Гарустовіч з Дубін і Балеслаў Рыхтэр з Белавежы.

Залатымі адзнакамі Саюза польскіх настаўнікаў узнагароджаны: Аляксандр Самайлюк і Станіслаў Душка, абодва з Гайнаўкі, а таксама Зыгмунт Кульчакевіч з Чыжоў.

Чатырох настаўнікаў атрымала залатыя адзнакі Янка Красіцкага. 32 настаўнікі, якія працуюць у школьніцтве 25 год, атрымалі пахвальныя граматы ад інспектарату асветы і Саюза польскіх настаўнікаў.

Потым выступіў інспектар асветы Іван Капчук, які, таворачы аб дасягненнях школьніцтва на Гайнаўшчыне, сказаў: «У 1938 годзе ў нашым павеце было 34 пачатковыя школы і ў гэтым толькі 7 сямікласных. Працавала тады 104 настаўнікі. Зараз у павеце маем 76 пачатковых школ і ў гэтым 50 школ васьмікласных. У пачатковых школах працуе 436 настаўнікаў. За перыяд 25 год народнай улады адбыліся аграмадныя перамены ў сярэднім школьніцтве. У 1938 годзе на Гайнаўшчыне была адна прафесіянальная школа ў Гайнаўцы, у якой працавала 12 настаўнікаў, а вучылася 150 вучняў. Зараз у павеце маем два агульнаадукацыйныя ліцэі, у якіх вучыцца 567 асоб, ліцэй для працуючых, два тэхнікумы і засадніцую прафесіянальную школу. Апрача таго ў павеце працуе тры засадніцыя сельскагаспадарчыя школы і тры школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Святкаванні дня настаўніка збегліся з пераказаннем у карыстанне новага прыгожага будынка тэхнікума драўлянай прамысловасці і засадніцай прафесіянальнай школы ў Гайнаўцы, якога кошт пабудовы склаў суму 10,5 мільёнаў зл. У школе гэтай працуе зараз 40 настаўнікаў, а вучыцца 750 асоб».



**Прэзідыум. Прэзес Павятовага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў Міхась Паскробка чытае спіс узнагароджаных настаўнікаў.**

(Працяг на стар 3)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### НАРАДА

У момант, калі пішам гэты каментарый, на цэлым свеце якраз ідзе дыскусія над дакументамі з маскоўскай сустрэчы партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў сацыялістычных краін: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі, СССР і Чэхаславакіі.

Што ж было тэмай чарговай нарады сацыялістычных краін Еўропы? Удзельнікі сустрэчы выказалі свае погляды на шырокі круг спраў, звязаных з умацаваннем міру і бяспекі. Асаблівая ўвага пры гэтым была звернута на справы запэўнення бяспекі ў Еўропе.

Многія сцвярджаюць, і не без рацыі, што зараз сацыялістычныя краіны знаходзяцца ў наступленні. Разумеюць праз гэта, што ў апошні час сацыялістычныя краіны выступілі з так лагічнымі і канкрэтнымі, а адначасова вельмі паважнымі прапановамі, што прайсці каля гэтага міма не магчыма. Успомніць хаця б калектыўна апрацаваныя сацыялістычнымі краінамі прапановы на тэму склікання і правядзення агульнаеўрапейскай канферэнцыі. Трэба напомніць, што будапешцкімі прапановамі зацікавіліся многія заходнія краіны.

— Сацыялістычныя краіны, — гаворыцца ў заяве маскоўскай нарады, — і ў будучыні будуць імкнуцца, каб на еўрапейскім кантыненце замест напружання запанавалі добрасуседскія суадносіны, каб мірнае суіснаванне сталася ўсеагульнай нормай суадносін еўрапейскіх дзяржаў з розным дзяржаўным ладам.

Разглядаючы актуальную міжнародную сітуацыю, было сцверджана, што вынікі выбараў у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі і стварэнне новага ўрада з'яўляюцца вынікам змен, якія наступаюць сярод пэўнай часткі грамадства ФРГ. Як станоўчы прыклад падаецца падпісанне ўрадам Брандта дагавору аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі. Адначасова ўдзельнікі сустрэчы выказалі аднагалосна думку, што нельга траціць з вачэй няспынных у ФРГ праяваў духу помсты і актывізацыі неанацысцкіх сіл.

Была таксама разгледжана на нарадзе сітуацыя ў В'етнаме. У сувязі з гэтым быў прыняты асобны дакумент.

### ВАРАШЫЛАЎ ПАМЁР

З 2-га на 3-е снежня 1969 г. на 89-м годзе жыцця памёр Клімент Яфрэмавіч Варашылаў. Варашылаў з 1903 года быў верным вучнем і саратнікам У. І. Леніна, адным з актыўных будаўнікоў Узброеных Сіл СССР, выдатным палкаводцам, партыйным і дзяржаўным дзеячам. У апошні час Клімент Варашылаў быў членам ЦК КПСС, членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Маршалам Савецкага Саюза, двойчы Героем Савецкага Саюза, Героем Сацыялістычнай Працы.

Медыцынскае заключэнне сцвярджае, што К. Я. Варашылаў даўжэйшы час хварэў агульным атэрасклерозам з пераважным паражэннем сасудаў мозгу і сэрца. Памёр пры з'явах спынення сардэчнай дзейнасці.

А. К.



## БССР

### КАМЕНСКІ

У Мінскім клубе журналістаў адбылася прэс-канферэнцыя намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Каменскага. У парадку дня: стан і перспектывы гарадскога і сельскага будаўніцтва.

Каменскі, між іншым, заявіў:

— Капітальныя ўкладанні ў народную гаспадарку Беларусі ў гэтым годзе толькі па дзяржаўнаму бюджэту складаюць 1,4 мільярда рублёў, а ўвод асноўных фондаў — 1,45 мільярда рублёў. Паспяховае асваенне гэтых сродкаў дасць магчымасць увесці ў дзеянне вытворчыя магутнасці, якія змогуць дадаткова перапрацоўваць у год мільёны тон нафты, выпускаць 2,2 тон стальнога і тысячы тон алюмініевага ліцця, 1.204 металарэзныя станкі, 500 тысяч штук халадзільнікаў, 38 тысяч штук электрарухавікоў, пабудаваць сотні кіламетраў ліній электраперадач. (...) Сёлета ў рэспубліцы павінна быць уведзена 939 тысяч квадратовых метраў жылой плошчы, школ на 42 тысячы вучнёўскіх месц, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў — на 7.280 месц, многа дзіцячых устаноў, бальніц і іншых аб'ектаў. (...) У будаўнічых арганізацыях рэспублікі занята больш, чым 200 тысяч чалавек.

Каменскі ўказаў таксама на некаторыя недахопы.

### 20-ГОДДЗЮ

У Палацы спорту ў Мінску адбылася выстаўка кніжкі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, прысвечаная 20-годдзю заснавання першай рабоча-сялянскай нямецкай дзяржавы. На выстаўцы пабывалі людзі з розных гарадоў і вёсак Беларусі, Расіі, Украіны, Далёкага Ўсходу і Крайняй Поўначы. Разам каля пятнаццаці тысяч асоб.

### ДРАМАТЫЧНЫ

Драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі ў Брэсце адзначае 25-годдзе творчай дзейнасці.

### ЛЫНЬКОВА

Грамадскасць Беларусі адзначае 70-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Міхася Лынькова.

### ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ

У Беларускім універсітэце адбылася інтэрнацыянальная студэнцкая навукова-тэхнічная канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Студэнты з розных краін падрыхтавалі даклады аб Леніне, яго дзейнасці і навуковай творчасці.

### КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

Адбыўся пленум Саюза кінематаграфістаў Беларускай ССР. Даклад меў дырэктар студыі «Беларусьфільм» У. Іванроўскі.

— Беларусьфільм — адно з буйнейшых кінапрадпрыемстваў краіны. 45 гадоў беларускае кіно служыць савецкім людзям. Удзельнічаючы ў многіх здзяйсненнях народа, асэнсоўваючы яго дзеянні і подзвігі ў мастацкіх і дакументальных вобразах, яно імкнецца быць на перадавых пазіцыях...» — заявіў, між іншым дакладчык.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### «БАРБУРКА»

Ва ўсёй краіне адбыліся 25-ыя ўжо ў Народнай Польшчы святкаванні традыцыйнага свята шахцёраў «Барбуркі». Цэнтральныя ўрачыстасці Дня шахцёра адбыліся ў Забжы. З прамовай выступіў Старшыня Рады Дзяржавы Мар'ян Спыхальскі. Перадаў ён ад імя найвышэйшых улад ПНР усім шахцёрам сардэчныя, цёплыя пажаданні. Падкрэсліў вялікі ўклад, унесены шахцёрамі ў будову дабрабыту, сілы і абароннай моцы нашай айчыны. За час народнай улады шахцёры дабылі 2360 мільёнаў тон каменнага вугалю, звыш 5 мільёнаў тон серы, 124 мільёны тон руды і дзесяткі мільёнаў тон іншых выкапняў. Далей Старшыня Рады Дзяржавы падкрэсліў вялікія дасягненні шахцёраў у гэтым годзе. Асабліва добра ідзе выдабыццё серы, перапрацоўка руды медзі, і выдабыццё цынкавых рудаў. Дасягненні гэтыя не павінны аднак супакойваць, а якраз наадварот — заахвочваць да ўпартага шукання ўсё яшчэ існуючых рэзерваў далейшага ўзросту прадукцыі. Прамоўца ўказаў на пэўныя недахопы працы ў горнай прамысловасці і на патрэбу іх выпраўлення. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на патрэбу падрыхтоўкі добрых кадраў да працы ў шахтах.

— Аб выніках прадукцыі, — сказаў тав. М. Спыхальскі, — аб яе развіцці вырашае не толькі тэхнічнае ўзбраенне дадзенай галіны прадукцыі. У не меншай ступені вырашае аб тым чалавек, яго ўстаноўка, ахвярнасць, свядомасць ролі выконваемых заданняў, яго жаданне служыць справе Польшчы і сацыялізма.

### ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ

1 і 2 снежня адбылося супольнае пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў і Галоўнага праўлення Цэнтральнай тэхнічнай арганізацыі (НОТ), прысвечанае ўдзелу прафсаюзаў і навукова-тэхнічных аб'яднанняў у павелічэнні эфектыўнасці гаспадаравання. З дакладамі выступілі: сакратар Цэнтральнай рады прафсаюзаў — Віктар Абалевіч і генеральны сакратар НОТ-у — Януш Чамарскі. У дакладах падкрэслівалася неабходнасць больш цеснага супрацоўніцтва прафсаюзаў і навукова-тэхнічных аб'яднанняў. Звярталася таксама ўвага на патрэбу паскорыць тэмпы ўводжання ў жыццё тэхнічнага прагрэсу згодна з пастановамі IV Пленума партыі.

### ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ

Ваяводскі суд у Кашаліне прыняў прыгавор смерці на Міхала Бахрышына, былога гітлераўскага паліцыянта які падчас акупацыі зрабіў шэраг злачынстваў на тэрыторыі БССР у мясцовасці Мір і Жухавічы. Прымаў ён актыўны ўдзел у забойствах жыхароў яўрэйскай і беларускай нацыянальнасці.

### ПРЫБОР

У цэнтры эксперыментальнай і клінічнай медыцыны Польскай акадэміі навук сканструяваны першы ў свеце апарат да штучнага аддыхання, кіраваны імпульсамі з мозга. Канструктарам прыбора з'яўляецца інжынер Анджэй Гушчук.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### «ІСКРА — 70»

Гэта лозунг гарцэрскай акцыі, прысвечанай 100-ай гадавіне з дня нараджэння Леніна, Савецкаму Саюзу і піянерскай арганізацыі. Гэтая акцыя будзе праводзіцца ў 1970 годзе.

### СУСТРЭЧЫ

У памяшканні Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку прадстаўнікі аб'яднання польскіх студэнтаў сустрэліся з сакратаром ВК ПАРП В. Мікульскім. Беластоцкае студэнцкае асяроддзе налічвае зараз 4,5 тысячы студэнтаў, якія вучацца ў трох вышэйшых установах горада Беластока. У час сустрэчы было вырашана стварыць у Беластоку Акруговую раду Аб'яднання польскіх студэнтаў. Шмат таксама гаварылася пра істотныя справы беластоцкіх студэнтаў.

Таксама ў Ваяводскім камітэце партыі сакратар ВК ПАРП А. Младзяноўскі сустрэўся з кіраўніцтвам акруговага праўлення Аб'яднання польскіх праўнікаў. Старшыня Акружнога праўлення АПП, суддзя К. Мохтак, паінфармаваў сакратара аб дзейнасці Беластоцкага аддзела АПП і аб падрыхтоўцы да акружнога з'езду. Сакратар Младзяноўскі падзякаваў беластоцкім праўнікам за іх грамадскую дзейнасць.

І яшчэ адна сустрэча ў Ваяводскім камітэце. 8-га снежня г.г. сабраліся там беластоцкія літаратары, аб'яднаныя ў розных клубах. Сярод іх былі таксама «белавежцы». Дыскусія была прысвечана адной праблеме: як узняць на вышэйшы ўзровень літаратурную творчасць мясцовых пісьменнікаў.

### ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ШКОЛЫ

Ломжынскі ліцэй медсёстраў адзначаў сваё 10-цігоддзе. На юбілей школа атрымала будынак, пабудова якога каштавала 3 мільёны зл.

### ЁЛКІ

З лясоў Беласточчыны павандруе ў свет амаль 139 тысяч штук святочных і навагодніх ёлак. Люблінскае і Варшаўскае ваяводствы атрымаюць ад нас звыш 100 тысяч гэтых традыцыйных дрэвак. У Беластоцкім ваяводстве застанецца звыш 30-ці тыс. Аж не хочацца верыць, што такая колькасць лесу падзе пад сякерай, каб нам і нашым дзецям упрыемніць каляды.

### ДЗІК

Паляўнічы з Гайнаўкі Т. Падэўскі забіў пад самай Гайнаўкай вялікага дзіка, які важыў 240 кг. Дзіка купіла прадпрыемства «Лес» у Гайнаўцы, якое дзічыну высылае на экспарт. Штогод да Гайнаўскага «Лесу» трапляе каля 100 дзікаў.

### БЮДЖЭТ ГОРАДА

Гарадская рада народовая ў Сямічах зацвердзіла гадавы бюджэт на 1970 год. У час бюджэтнай сесіі шмат гаварылася аб упарадкаванні сямяціцкіх вуліц.

### ПРЫЕМНА...

...адзначыць, што ГС у Нурцы (Сямяціцкі павет) памятае аб сваіх даўнейшых працаўніках, якія адышлі ўжо на пенсію. Нядаўна праўленне ГС-у паклікала сваіх пенсіянераў на сяброўскую сустрэчу. Была традыцыйная кава і былі падарункі, на якія ГС прызначыў 7 тысяч злотых.

(вр)




**Niedziela, 14.XII.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Organizacja gniazd reprodukcyjnych". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 8.55 Dla młodych widzów: „Załoga" — film TVP (Czterej pancerni i pies"). 10.10 „Piosenki dla Ciebie" — reklamowy koncert życzeń. 11.00 Międzynarodowy Turniej Nadziei Olimpijskich w boksie. 13.30 Dziennik. 13.45 „Sezam muzyczny". 14.30 „Przemiany". 15.00 „Cecylia — lekarka wiejska" — film. 15.25 Teatrzyk dla Przedszkolaków: „Kamień na drodze" — bajki S. Michałkowa. 16.05 „Mąż Basi" — film TVP („Przygody pana Michała"). 16.35 „Godzina zwierzeń" („Spotkania"). 17.15 Recital piosenkarski Krystyny Sienkiewicz. 17.45 „Piórkiem i węglem". 18.05 Estrada Literacka: Z. Herbert „Hermes idzie przez świat" („Nowa Poezja Polska"). 18.50 PKF. 19.00 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Urząd" — film TVP. 21.55 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 15.XII.**

14.25 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Syria" — film dok. syryjski. 18.25 „Sylwetki X Muzy" — Bing Crosby. 18.50 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: R. Kabatc — „Przygoda z Agnieszką". 21.15 „Fredreum — ballada o teatrze" — rep. film. 21.45 „Skąd my się znamy" — program satyryczny. 22.20 Dziennik.

**Wtorek, 16.XII.**

7.50 „Jak się pozbyć Helenki" — film fab. czechosłowacki. 9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — J. Słowacki „Fantazy". 9.35 Przerwa. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Zielony Śląsk". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V i VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" — wzór bohatera (Naśladownictwo). 11.25 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Gleba jako środowisko wzrostu i rozwoju roślin". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Z biało-czerwoną opaską" — film pol. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 „Powszedni kształt polityki" — gawęda prof. dr A. Łopatki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Jak się pozbyć Helenki" — film fab. czechosłowacki. 21.40 „Kontakty". 22.10 Dziennik.

**Środa, 17.XII.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Do broni". 10.25 „Europolis" — film fab. rum. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Odkrycie Pascala". 12.25 Przerwa. 14.25 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.00 i 23.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci. „Pan Półka i spółka". 17.25 Magazyn ITP. 17.35 TV Kurier Warszawski. 17.50 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 „Wielcy znani i nieznani" — „Bajkalski" (Tadeusz Benedykt Dybowski). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Szukajcie swojej gwiazdy" — transmisja I części koncertu rozrywkowego z Sali Kongresowej PKiN. 21.00 „Światowid". 21.30 PKF. 21.40 „O muzyce mówią..." 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 18.XII.**

8.15 „Matematyka w szkole": „Poglądowa rekrutacja i indukcja matematyczna". 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół. (kl. I lic.) Język polski — „Jan Kochanowski". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół. (kl. VI) Historia — „Na Krakowskim Rynku". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół. (kl. V) Historia — „Powstanie państwa rzymskiego". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja nawożenia obornikiem". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 18.05 TV Kurier Lubelski". 18.20 „Perspektywy techniki". 18.50 „Czas słońca i róż" — film estradowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr KOBRA: R. Thomas — „Drugi strzał". 21.05 „Przegląd muzyczny". 21.35 „Rozmowy o książkach". 21.50 „Turtura nadziei" — film TVP. 22.20 Dziennik.

**Piątek, 19.XII.**

8.50 „Uczta Baltazara" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół. (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Kochane zdrowie..." 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. II — III lic.) Przysposobienie obronne — „Organizacja i zadania ZOS, TOS i Oddziałów Samoobrony w szkole". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: 1. „Aula" — sesja szósta; 2. „Zrób to sam"; 3. „Poranek Misia" — film pol. 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „Polska zza siódmej miedzy". 18.55 „Przepraszamy za usterki" — aktualności satyryczne. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Komendant strzelnicy" — film TVP („Przygody pana Michała"). 20.35 „Klucz do M-3". 21.05 Teatr TV: P. Corneille — „Przedziwny kochanek". 22.15 „Kurierzy". 22.25 Dziennik.

**Sobota, 20.XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „W Niemieckiej Republice Demokratycznej". 10.30 „Ostatni zachód słońca" — film fab. USA. 12.15 Przerwa. 14.00 Program dnia. 14.05 TV Kurs Rolniczy: „Wpływ wczesnego osadzania na częstotliwość oproszeń". 14.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 14.50 Program tygodnia. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „RWPG w akcji" (Moskwa). 17.30 Dziennik. 17.40 „Teleferie". 18.30 „Bułgarskie pieśni i tańce ludowe" (Sofia). 19.10 „Protestujemy" — film węg. (o Wietnamie). 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Ostatni zachód słońca" — film fab. USA. 22.25 „Wieczór w Olimpii" — film estradowy.




**Piątek, 12 grudnia**

8.15 Dla dzieci. 8.45 Film fab. 15.15 Akademik A. F. Ioffe. 16.30 „W. I. Lenin. Kronika życia i działalności". 17.15 Koszykówka. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Tbilisi). 19.15 TV barwna. 20.45 Spotkanie z delegatami III Wszechzwiązkowego Zjazdu Kołchoźników. 21.15 „Wieczorna Serenada".

**Sobota, 13 grudnia**

8.30 „Tydzień planety". 8.50 „Szkatułka muzyczna". 9.05 „Białe i czarne". 9.30 Almanach TV. 10.00 Tańczy artystka ludowa Uzbeckiej SRR Bernara Korijewa. 11.00 Uniwersytet ludowy. 13.30 „Kompozytorzy białoruscy — dzieciom". 14.00 Film animowany. 14.10 „Filmoteka muzyczna". 15.30 Piłka ręczna. ZSRR — Jugosławia. 16.45 Gra zespół skrzypków Domu kultury związków zawodowych. 17.15 A. Kron. „Drugi oddech". Spektakl TV. 18.45 „Leninizm — sztandarem naszej epoki". 19.30 Ludowy artysta RSFRR K. Ławrow. 21.00 „Wieczorny Leningrad".

**Niedziela, 14 grudnia**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 „Zdrowie". 9.00 Trzecia runda olimpiady kosmicznej. 10.00 „Woła was Sportlandia". 11.00 Międzynarodowy turniej bokserski (z Polski). 13.30 50 lat Wojskowej akademii im. W. Lenina. 14.30 „Godzina wiejska". 15.30 TV barwna. 16.00 „Klub filmowy". 17.00 „Melodie przyjaźni". 18.00 TV barwna. 20.00 W eterze „Młodość".

 

РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

# Еўдакія Лось



**Нар. 1.III.1929 г. у вёсцы Старына на Віцебшчыне. У 1955 г. скончыла Мінскі педагагічны інстытут, а пазней — Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Друкуецца з 1947 г. Першы зборнік «Сакавік» выдадзен у 1958 г. Пяру Е. Лось належаць паэтычныя кніжкі «Палачанка» (1962), «Людзі добрыя» (1963), «Харастartво» (1965), «Яснавокія мальвы» (1967), «Вянцы зруба» (1969), а таксама зборнікі вершаў для дзяцей: «Абутая ёлачка» (1961), «Казка пра Ласку» (1963), «Вяселікі» (1964), «Зайчык-выхваляйчык» (1969). Е. Лось выдала таксама зборнік апавяданняў «Пацёркі» (1966). Нядаўна гасціла ў Польшчы.**

## Бярозкі ля станцыі Разліў

**Стройныя зялёныя бярозкі
Расплялі танюсенькія коскі...**

**Да адной кажу, што поплеч стала:
— Нам з табою не пашанцавала.**

**Мы з табой спазніліся радзіцца,
Не маглі яму мы пакланіцца,**

**Пазвінець зялёнымі лістамі,
Памагчы адданымі рукамі.**

**Мы з табою страцілі замнога —
Леніна не бачылі жывога.**

* * *

**Магчыма, што за далечу, за светам
Вякуюць шчаслівейшыя, чым я.
А мне і тут, на ўзгорку родным гэтым,
Смяецца доля слаўная мая.**

**Я столькі праз яе павандравала,
Што не магу пра тое расказаць,
Я столькі за яе паваявала,
Што не магу заўжды не ваяваць!**

* * *

**«Не веру» —
Кажы толькі хіжаму зверу...
Калі ж чалавек тваёй веры папросіць, —
Нахай ён не кленчыць, нахай не галосіць, —
Прыслухайся, гэта ж не цяжкая мера!**

**А можа цябе скалане яго слова
І ты чалавека таго абагрэеш.
Ад простай спагаднасці не пастарэеш,
Адно мо выразней нахмурацца бровы.**

**Навер'е —
Не крылы ў блакітным раздоллі.
Навер'е — не зерне, што сеюць у полі...**

**«Не веру» —
Кажы толькі хіжаму зверу...**

## Варшаве

**Горад Варса і Савы,
маладыя муры,
воблік вечнае славы
на чырвонай зары!**

**Ты легендай прыгожы,
што найменне дала,
І не схілен, не зможан,
хоць палілі датла.**

**Хоць таптаці вар'яты
горкі попел святы,
ты душою узняты,
у змаганні круты!**

**...Бачу Віслу, што ў песнях
сустракала здаўна...
Віслe — водараў вясніх,
берагам — дывана!**

**Быць гасцінным заставам
на яе берагах!
Бачыць Варсам і Савам
ясны дзень на сцягах!**

## Абеліскі

Па ўсёй зямлі — далёка,
блізка —
Дзе быў баёў цяжкіх раён,
Стаяць маўкліва абеліскі
З імёнамі і без імён.

Іх густа травы абплятаюць
Да самых зорак угары.
Ім вершы звонкія чытаюць
Тугія летнія вятры.

Над шырынёй былых
плацдармаў —
Пылок планет, начлегаў дым.
Тут пераможна і ўладарна
Ўсім навасельцам маладым.

Яны, шчаслівыя з калыскі,
Ідуць, ляцяць ва ўсе бакі!
Таму што побач — абеліскі,
Гранёныя, нібы штыкі...

* * *

**Ах, Беларусь, мая ты доля,
Мая сляза і пацалунак,
Маё ў бярозках белых поле,
Мой песнямі набіты клунак!**

**Нясу цябе праз далі ў далі,
Спыняюся на землях розных,
Каб скрозь пачулі і пазналі
Гамонку вёсен вербалозных.**

**Нясу цябе насустрач люду
У тых вачах, што мне дала ты,
У словах тых, якімі буду
Да скону марнага багатай.**

**Цябе гукаю, дзе ні стану,
З табой сябруючы, сябрую,
Гаю, калі нанесць, раны,
Дзеля цябе грахі дарую.**

**Імя тваё дае мне сілы,
Хоць не хвалюся я табою, —
Як пацалункам самым мілым,
Як самай горкаю слязою.**

## Вершы аб Леніне

З нагоды сотай гадавіны з дня нараджэння правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі музей Леніна ў Варшаве нядаўна выдаў невялікую анталогію паэзіі пад загалоўкам «Вершы аб Леніне». Зборнік мае два раздзелы: «Ленін у Польшчы» і «Сённяшні Ленін».

У зборніку змешчана 36 вершаў беларускіх, грузінскіх, літоўскіх, польскіх, рускіх і украінскіх паэтаў. Між іншым, змешчана тут вершы беларускіх паэтаў — П. Проўкі, М. Танка і В. Шведа.

Падборку зрабіў і пераклаў на польскую мову большую частку вершаў, а таксама напісаў уступ і біяграфічны даведнік аб аўтарах Анджэй Цэсаж.

У прадмове да гэтага карыснага зборніка яго ўкладальнік выказвае пажаданне: «Каб гэты скромны зборнік мог паспяхова служыць, напярэдадні сотай гадавіны з дня нараджэння Леніна, моладзі, настаўнікам, агітатарам у высакароднай справе прапаганды жыцця і працы Сапраўднага ЧАЛАВЕКА, вялікага гуманіста і грамадскага дзеяча, якім быў і застанецца назаўсёды Уладзімір Ільіч Ленін».

Большую колькасць экземпляраў зборніка можна атрымаць у музеі Леніна ў Варшаве.

**В. Ш.**

### У 25-ГОДДЗЕ ТППР

З нагоды 25-годдзя ТППР Дом савецкай культуры супольна з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Варшаве 26.XI. г.г. арганізавалі цікавы вечар, у якім прынялі ўдзел Фердынанд Герок — намеснік старшыні Галоўнага праўлення ТППР, Тадэвуш Стшэмэцкі — сакратар Варшаўскага ваяводскага праўлення ТППР, Анатолій Абросаў — дырэктар Дома савецкай культуры, Аляксандр Смалянаў — нам. дырэктара ДСР, праўленне і члены Варшаўскага аддзела БГКТ.

Др Генрых Скробіш — старшыня Варшаўскага ваяводскага праўлення ТППР выступіў з цікавым дакладам: «Культурнае супрацоўніцтва Таварыства польска-савецкай дружбы з Таварыствам савецка-польскай дружбы». Тав. Скробіш у сваім дакладзе звярнуў асаблівую ўвагу на супрацоўніцтва ТППР з Беларускім аддзяленнем Таварыства савецка-польскай дружбы.

У другой частцы вечара адбылася сустрэча з дэлегацыяй Беларускага аддзялення ТСПД — тав. Мікалаем Дубаўцом, I сакратаром Ленінскага раённага камітэта КПСС Мінска, і тав. Еўдакіяй Лось — вядомай беларускай паэтэсай.

Госці з Мінска падзяліліся сваімі ўражаннямі з дзесяцідзённай пабыўкі ў Польшчы. Тав. Е. Лось прачытала таксама некалькі сваіх вершаў, між іншым, новы, не друкаваны яшчэ верш прысвечаны Варшаве.

На заканчэнне вечара дэманстраваўся цікавы савецкі кінафільм «Аннычка».

В. Ш.

# „NOWE KSIĄŻKI" ПРА ЯНКУ БРЫЛЯ

Двутыднёвік «Nowe Książki» за 15 лістапада г.г. змясціў у сваёй папулярнай рубрыцы «Партрэты» артыкул пра Янку Брыля. У ім даецца характарыстыка творчасці выдатнага беларускага пісьменніка і падкрэсліваюцца яго сувязі з Польшчай.

«Калі б існавала энцыклапедыя замежных прыяцеляў Польшчы, — гаворыцца ў артыкуле, — Янка Брыль быў бы не толькі з выпадку алфавітнай чарговасці на адным з першых месц як папулярызатар польскай літаратуры і культуры, як яе абаронца ў час вайны, як перакладчык многіх нашых пісьменнікаў і ўрэшце як актыўны старшыня Таварыства беларуска-польскай дружбы.»

«N.K.» называе парадоксам, што так заслужаны для польскай культуры беларускі пісьменнік з'яўляецца «так мала вядомы ў нас, а яго аповесць аб польскім верасні, перакладзеная на еўрапейскія мовы, не мае свайго польскага перакладу».

На першай старонцы часопіс змяшчае фота Янкі Брыля (на ўсю старонку). Друкуецца таксама фатаграфія Янкі Брыля ў форме польскага салдата.

(рл)

(Працяг са стар. 1)

# Дзень настаўніка ў Гайнаўцы



**Аляксандр Хілецкі ўзнагароджвае Залатым Крыжам Заслугі настаўніцу Ірэну Яблонскую.**



**Дэлегацыя настаўнікаў са школы №2 у Гайнаўцы складае вянок на магіле Героя Савецкага Саюза Аляксея Фларэнкі. Яго імем названа гэтая школа.**

Пасля заканчэння абшырнага і цікавага даклада Івана Капчука, выступілі з прывітальнымі словамі і падзякай для настаўнікаў за іх працу: ад імя партыйных і адміністрацыйных улад — сакратар КП Аляксей Лазоўскі, ад імя бацькоўскіх камітэтаў — намеснік каменданта міліцыі Дзмітры Харужы, ад імя прафсаюзаў — старшыня павятовай камісіі прафсаюзаў Юзэф Фігляж, ад імя гайнаўскіх прадпрыемстваў — дырэктар тартака Аляксей Зін. Выступалі таксама школьнікі.

Афіцыйная частка акадэміі закончылася праспяваннем інтэрнацыянала. Потым быў канцэрт Варшаўскай эстрады «Марымба».

Але на гэтым яшчэ не закончылася. Гайнаўка арганізавала нешта новае. Усе 250 настаўнікаў наведалі прадпрыемствы, пазнаёміліся з іх працаю і там жа асталіся на пачастунак. Настаўнікі з горада Гайнаўкі былі гасцьмі ў тых установах, якія займаюцца сельскагаспадарчымі справамі або прадукцыяй. Настаўнікі з вёсак былі гасцьмі прамысловых прадпрыемстваў.

У павятовы камітэт партыі на традыцыйную чарку віна было запланавана 70 асоб, у Тартак — 30 асоб, у спулдзельню праца «Постэмп» — 30 асоб, Гаймаклес — 20 асоб і г.д. А 19 гадзіне ў доме культуры «Гурнік» пачалася забава для настаўнікаў.

**М. Хмялеўскі**

Фота **Эдвард Панецкі**



**Настаўнікі — удзельнікі акадэміі.**



 




светам». Быў праведзены цікавы конкурс на ўспаміны з пабыўкі ў СССР, называўся: «У сяброў». Клуб ТППР быў сарганізатарам нашага чытальніцкага конкурсу на беларускую кніжку.

**Клуб савецкай песні...**

які вырас на базісе штогадовых конкурсаў савецкай песні, працуе цяпер вельмі плённа. Належыць да выдатнейшых такога роду спяваючых гурткоў у краіне. Працуе пад кіраўніцтвам Яна Куляшэвіча. У 1968 годзе атрымаў II-ую ўзнагароду Цэнтральнай каардынацыйнай Камісіі Міністэрства культуры.

**Савецкія фільмы...**

дэманструюцца таксама на экранах пастаяннага кіно ТППР у Беластоку. Паглядзела іх за два гады 335 тысяч асоб. Асаблівасцю ТППР-аўскіх фільмовых сеансаў з'яўляецца арыгінальная версія фільмаў (г. зн. ідуць яны на рускай мове). Падобную форму вядзе таксама і Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку.

**Паязды дружбы...**

так папулярна назвалі арганізатары ТППР-аўскія экскурсіі ў Савецкі Саюз. Ваяводскае праўленне ТППР у Беластоку ў форме ўзнагарод, часам за частковай аплатай, за добрую працу прызнае сваім дзеячам экскурсіі ў Савецкі Саюз, іменна паяздамі дружбы.

**Гурткі прыяцеляў СССР...**

моцна заселі ў школах. Іх у ваяводстве 872 з 35 тысячамі членаў. Яны арганізуюць свае клубы зацікаўленняў: адны — клуб ведаў аб СССР, другія — клуб любіцеляў савецкай літаратуры, іншыя — любіцельскія клубы савецкіх гарадоў. Клубы навязваюць кантакты. Ужо некалькі год існуе цікавае супрацоўніцтва паміж школьным гуртком ТППР у Баброўніках, Беластоцкага павета, з Беластоцкай фабрыкай прыладаў і ўхвытаў.

Школьныя гурткі прыяцеляў СССР вядуць шырокую перапіску з сябрамі ў СССР. Напрыклад, у школе ў Гарасімавічах, якая прыняла імя героя СССР Кунавіна, аж 60% усіх вучняў перапісваецца з савецкімі сябрамі. У апошні час школа-помнік у Малінніках называлася імем ст. лейтэнанта Аляксея Кузмінава.

**За працу для дружбы...**

ў мінулыя два гады 114 асоб, дзеячаў ТППР, атрымала залатыя ганаровыя адзнакі ТППР. Заслужаную адзнаку атрымаў, між іншым, беларускі ліцэй у Бельску, фабрыка Сяржана ў Беластоку, лясны тэхнікум у Белавежы.

**Перад ТППР...**

у далейшым стаяць вялікія заданні. Галоўным і найбольшым з іх — сотая гадавіна нараджэння Уладзіміра Леніна — Чалавека і Правадыра Рэвалюцыі. XI з'езд паказаў, як моцна гэтай гадавінай жыве ТППР і як дакладна да яе святкавання рыхтуецца. Але будзе таксама 25-тая гадавіна падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Польшчай і СССР. Будзе далейшая праца па ўмацаванню ідэі дружбы, па пашырэнню яе. Будзе далейшая нястомная праца з моладдзю, са студэнтамі, з вёскай. (вл)



## У БІБЛІЯТЭЦЫ ЛІДЫ КРАШЫНСКАЙ

У грамадскай бібліятэцы ў Крынках ёсць каля двухсот беларускіх кніжак. Як паведаміла кіраўнік бібліятэкі, Ліда Крашынская, актыўнымі чытачамі гэтых кніжак з'яўляюцца: Веслаў Клімук, Францішак Лукашэвіч, Людміла Пучкелевіч, Людвік Бельскі, Юры Пучкелевіч, Францішак Семянака.

У крынкаўскай бібліятэцы цікавая хроніка мястэчка, робленая ў выглядзе ўклейваных артыкулаў і нататак аб Крынках, публікаваных у «Ніве», «Беластоцкай Газеце», «Кантрастах» і іншых часопісах ды газетах. У бібліятэцы адбудзецца выстаўка экспанатаў, якія паказваюць сакрэты друкавання і выпуску газет і кніжак, «Нівы» таксама.

У сувязі з 400-годдзем «места» Крынкі бібліятэка рыхтуе бібліяграфію дакументаў і публікаваных крыніц, якія датычаць мястэчка. Гэта вельмі цэнная ініцыятыва, якая добра сведчыць аб амбіцыях бібліятэкі стаць цэнтрам культуры і інфармацыі. Ужо цяпер многія людзі прыходзяць да бібліятэкаркі з просьбай дапамагчы ім у вышукоўванні матэрыялаў аб гістарычным мінулым Крынак, аб іх сённяшніх днях. Завязваюцца размовы і дыскусіі. Крынкаўская бібліятэка перастае быць толькі пазычальняй кніжак. Яна стаецца такім цэнтрам, якім павінна быць кожная добра кіраваная бібліятэка. (ся)

Фота Цаф — Раман Сянько




**Вінаваты помпы**

Рамонт пункта аховы здароўя ў Гарадку гэта ўжо легенда. Праводзіць рамонт беластоцкі МПРБ, які ў разгар цеплыні вясны і лета не прыслаў сюды ніводнага рабочага. Ну, можа двух?.. Словам, той «эмпэрбэ» накрыўся хвастом.

Гарадоцкія лекары працуюць нават горш, чым у прымітыўных умовах, бо і прымітывізм у наш час мае не такі нізкі ўзровень. Цэлая бяда ў тым, што «эмпэрбэ» кажа: не папраўлюся, бо казённы апякун пункта, Аддзел здароўя, не даставіў помпаў. Што маюць помпы да рамонту? Не задавайце такіх наіўных пытанняў. Помпы маюць такое дачыненне да рамонту, што служаць яны апраўданнем, чаму нічога не робіцца. Гэта так, як вінаваты муж, чаму куры не нясуцца. Аддзел здароўя вінаваты, што МПРБ мае ў хвасце цэлы той рамонт. І, відаць, не толькі той... О, «эмпэрбэ» чаго добрага, але ведае напамяць на каго зваліць віну.

Даў той «эмпэрбэ» слова гонару Аддзелу здароўя, што рамонт закончыць не пазней, як да трыццатага лістапада. Ды амаль назаўтра сказаў: дудкі, не кончым і ўсё. Хай мерзне гарадоцкая медыцына. І, відома, так яно будзе.

На здымку бачым гарадоцкі пункт аховы здароўя. Здаецца, будынак, як будынак, сцены мае. Але толькі сцены, дах. (ся)

Фота Цаф — Р. Сянько

## СЭРЦА РАКОЎСКАГА

Аматарскі гурток у Піліках наогул не наракае на старшыню ГРН, Ракоўскага. Як праўдзівы гаспадар, бачыць розныя патрэбы. Ведае, што адна Варшаўская тэлевізія пры пасрэдніцтве святлічнага тэлевізара не пабудзе культуры ў Піліках і ваколіцы. Смешна было б спадзявацца таго. Таму старшыня Ракоўскі пастараўся, а кіраўнік аматарскага гуртка, Нявінскі, выпрасіў, каб было тых пяць тысяч злотых на ўборы. Калі гаворым аб культуры, дык варта зазначыць, што тыя пяць тысяч, хаця і невялікая сума, аднак жа ўжо прымарнаваная тым, што ўборы задумана паводле кракаўска-макаткавых узораў. Словам, дайшоў да голасу тыповы правінцыяналізм, комплекс горшасці ўласнага, мясцовага, народнага. Кінута ў кут арыгінальнае. Нядобра.

Ну, але нягледзячы на гэтыя свае грахі гурток усё такі просіць аб большы сэрца ў Ракоўскага да яго спраў. Хто ведае, чым з'яўляецца аматарская дзейнасць, той адразу скажа, што гурток у Піліках не замнога хоча. Не, не замнога. Сардэчнасць яму патрэбна. Бо ж, перакладаючы на канцылярскую мову, аматарская самадзейнасць, гэта грамадскі чын. Так.

А сваёй дарогаю, ці ж гэта непрыемна, калі ёсць каму ў вёсцы талкова заспяваць, зайграць. Сама людскасць чалавека сведчыць аб тым, што гэта прыемна, і то яшчэ як! (ся)

## БЕЛЬСКІЯ МУЗЫКІ

Неяк увайшлі ў характар бельскай культурнай дзейнасці раптоўнасць, пагоня за паказухаю, эфектыўнасцю. Столькі было ўзлётаў ды ўпадаў, што людзі амаль з недаверам ужо адносяцца да кожнай размашыстай ініцыятывы. Дзіўнае тое, што гэты недавер разпораз апраўданы.

Прыбыў у Бельск музык Садліцкі, энергічны і ініцыятыўны чалавек, але і сварлівы, празмерна самаўпэўнены. Аб ім беластоцкі Аддзел культуры гаворыць, што ён рыхтуе грунт пад музычную школу ў Бельску, у 1974 годзе. Сказалі: «Як музык ён не арол, але рухавы».

Ад гэтай яго рухавасці некаторыя бацькі пачынаюць пабойвацца за здароўе сваіх дзяцей, якія ўдзельнічаюць у духавым аркестры і «дуюць у трубы, аж дух адымае». Здаецца, амбіцыі таксама павінны мець сваю меру, тым больш, што рухавасць Садліцкага мае дыктатарскія замашкі, аб чым пачынае быць толасна. (ся)




## ЖЫЦЦЁВАЯ АДЫСЕЯ АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА

Уся творчасць Аляксея Карпюка — вядомага пісьменніка Беларусі — з'яўляецца адным вялікім дакументам пераабразаванняў свядомасці і культуры беларускага грамадства Беласточчыны, з якой паходзіць пісьменнік. І гэта не толькі таму, што творчасць яго мае аўтабіяграфічны характар — датычыць канкрэтных, аўтэнтычных падзей і асоб вядомых пісьменніку з уласнага жыццёвага вопыту. Гэта так перш за ўсё таму, што пісьменнік клапоціцца пра выяўленне ў сваёй творчасці глыбокай псіхалагічнай і грамадскай праўды ў не меншай ступені чымсьці пра праўдзівасць паасобных падзей і асоб. Праўда гэтая мае не толькі літаратурны, эстэтычны характар. З карпюкоўскіх твораў можна даведацца аб жыцці, турботах, пачуццях і імкненнях беларускага грамадства значна больш, чымсьці з не адной аб'ёмістай навуковай працы.

Такі менавіта характар мае аповесць Карпюка надрукаваная ў 2 нумары часопіса «Полымя» з 1968 года «Па кветку шчасця». Аўтар апісвае ў ёй падзеі свайго дзяцінства і маладосці ў ваколіцах Гарадка, а асабліва ў роднай вёсцы пісьменніка — Страшаве. Крок за крокам сочым тут за тым, як з вясковага дзіцяці ва ўмовах міжваеннай Польшчы развіваецца зрэлы чалавек — камсамолец, падпольшчык, партызан і пісьменнік. Развіццё гэтае не было ні простым, ні лёгкім, ні адназначным. У дзяцінстве мужчыны са Страшава навучылі малога хлапчука класавай і нацыянальнай годнасці. **(«Я не проста Алёша, мужыка Нічыпара сын, а яшчэ і беларус, чаго ніхто не адменіць. Нават ні сам Пілсудскі, ні яго паліцыянты»).** Гэтая годнасць і рашучасць бараніць яе з усіх сіл вызначаць жыццёвы шлях героя. Але жыццё страшаўскага хлапчука, а потым юнака не канчаецца на адным змаганні за грамадскія справы. Вось хаця б смерць суседа Доўгага Мікалая, які павольна памірае на сухоты стоячы пры слупе, вакол якога гуляе вясковая дзетварня.

«Я ведаў, што гэты чалавек хутка памрэ. Хацелася зразумець жудасную і таямнічую прыроду смерці. Надта карцела папрасіць Доўгага Мікалая: дзядзьку, раскрыйце рот, пакажыце сухоты».

Потым жыццё юнака паглынаюць іншыя эмоцыі: першае каханне, першая дзяўчына, суседка Верка — дачка Доўгага Мікалая, з якой перажывае першыя пяшчоты і першае юнацкае шчасце. Шчасце сваё пераносіць на ўсё акружэнне, на прыроду, краявід, які быў яго сведкам.

«Я люблю сваё Страшава, поле, гэты хвойнік, мы з ім мелі таямніцу — яны трымалі для мяне ў запасе шчасце. Захацелася падскочыць да хмар».

Аповесць канчаецца паваротам узрослага мужчыны, героя партызанскіх баёў, савецкага пісьменніка да гэтай краіны юнацкага шчасця — у вёску Страшава на Беласточчыне. Вяртанне гэтае — як кожнае мабыць вяртанне ў краіну дзяцінства — поўнае радасці і трагізму. Трагізм гэты ў тым, што ў краіне гэтай не знаходзім таго, што тут пакінулі і чаго здаецца — потым шукалі мы праз усё жыццё, — усё нішчыць усемагутны час. У Страшаве герой сустракае прадмет свайго юнацкага кахання, Верку — пастарэлую, хворую вясковую жанчыну.

«Ах гэта ты-ы?! Бо-ожа, што з табой зрабіў час: замуляная, са счарнелымі і высушанымі кісцямі рук... што з табой здарылася? Не так, зусім не так уяўляў я сабе нашу сустрэчу. Колькі ў нас агульнага, недагаворанага, невысветленага, перажытага, але якое цяпер гэта мае значэнне...»

Верка запрашае героя ў сваю хату. Той заходзіць.

«Вярнуўшыся з сяней, Верка пачала паспешліва пілаваць тупым нажом сухі, сіні і жылясты кумпяк. Я не мог болей глядзець на Верку. Зрабілася страшэнна яе шкада: Я не мог, ніяк не мог тут заставацца — нават і хвіліны. Пачаў развітвацца.

— Ганьбу-уеш? — жаласліва папракнула яна, нібы заплакала, нібы брытвай паласнула па сэрцы. І не разумела, што вінавата менш, плакаць павінен я. Што зрабіў у жыцці я, каб вызваліць Верку, чым ёй памог?!»

Так канчаецца гэты твор. Гэта асабісты, псіхалагічны план аповесці. А побач гэтага развіваецца багаты план грамадскіх спраў і праблем. З аповесці даведваемся, як спляталіся, перамешваліся з сабою вялікія, узнёслыя ўзлёты са звычайнымі чалавечымі слабасцямі; баязлівасцю, няўстойлівасцю, дагматычнай вузкасцю поглядаў і звычайным чалавечым свінствам. Даведваемся, як у невялікай вёсцы Страшава і іншых акалічных вёсках у свядомасці і паводзінах людзей заломліваліся вялікія падзеі XX стагоддзя: уздым камуністычнага руху, II сусветная вайна, барацьба з фашызмам, культ адзінкі і г.д. Даведваемся, як свядомасць вялікіх спраў і падзей сплятаецца тут з забабоннай верай у надыходзячае міфічнае царства шчасця, вобразам і сімвалам якога была купальская кветка шчасця. Аб легендзе гэтай Карпюк піша:

«У легенду верылі ўсе. Цётка Кірыліха расказвала, як тая кветка цвіце і свеціць усімі фарбамі вясёлкі. Цётка вучыла, як шукаць, як падысці, каб не спужаць гэты цуд. Апавядала, як будзе табе добра, калі яго знойдзеш.

Шчыра верыў у легенду Кірылішын Валодзька, сакратар нашай ячэйкі, ён так і сеў у турму з гэтай верай».

Ул. Паўлючук

У пошуках шчасця

# Як упарадкаваць усяленную

Вось менавіта: як упарадкаваць усяленную? Не панадворак, не вёску, ці нават грамадскую раду, але ўсю ўсяленную. Ведае аб гэтым Раман С. з адной вёскі Беласточчыны.

Веды такія не прыходзяць дарма — над імі трэба думаць. І Раман С. думаў над гэтым, роўна 20 гадоў. Думка была закончана ў 1946 годзе і ў форме асноўных тэзісаў перасланa па адрасу рэктара Ягайлаўскага універсітэта ў Кракаве з прапановай разгледзець і апублікаваць. У Кракаве мабыць не надта пераняліся геніяльным адкрыццём беластоцкага селяніна, бо не далі на яго аніякага адказу.

Раман С. быў цярплівы. Нават вельмі цярплівы. Чакаў на адказ роўна 20 гадоў. У 1968 годзе выслаў у Польскую Акадэмію навук ліст, а ўласна кажучы, афіцыйную заяву аформленую згодна з усімі тонкасцямі канцылярскіх звычаяў. Да заявы далучыў напісаную сабою «кніжку» пад загалоўкам: «Першы том правоў кіруючых усяленнай». У заяве прапанаваў надрукаваць кніжку ў тыражы 100 тысяч экземпляраў, а адначасова аб'явіў для ўсіх вучоных усіх краін свету конкурс, які дапаможа ўпарадкаваць усяленную. Аб першынстве ў развязцы конкурсу аднаасабова вырашыць Раман С., сялянскі філосаф з беластоцкай вёскі.

На гэты раз Раман С. быў менш цярплівы. Ці то набліжаючаяся старасць, ці поспех у касмічных палётах і страх, што могуць іншыя без яго ведама ўзяцца за ўпарадкаванне ўсяленнай — у кожным выпадку Раман С. пачаў рэагаваць больш рашуча. На адказ чакаў два гады, а не дачакаўшыся, падаў справу ў суд, абвінавачваючы Польскую Акадэмію навук у тым, што не апублікавала яго «трактату», даводзячы такім чынам да страт не толькі яго, як аўтара, але і ўсё чалавецтва, якое такім чынам можа страціць шанц упарадкавання ўсяленнай.

І вось цяпер у канцы 1969 года ляжаць працы Рамана С. на маім стале. На двары позняя восень з халодным дажджом, у радыёпрыёмніку грымяць аб палёце «Апалона — 12» на Месяц, а тут дзелавыя лісты вельмі дзіўнага зместу. Лісты чалавека, які, ходзячы за плугам і многа думаючы, дайшоў да вываду, што развязаў таямніцы ўсяленнай, таямніцы, над якімі геніі чалавецтва ламаюць галовы тысячы гадоў.

Да дзелавых лістоў далучана кніжка. Першы том правоў, кіруючых усяленнай, — перапісаныя на бюровай машынцы, на адваротнай старонцы вокладкі заўвага: наследванне і перадрук забаронены. Не гледзячы на гэтую грозную заўвагу дазволю сабе прывесці ўрывак з кніжкі:

«Чалавек, — чытаем, — з'яўляецца жывым энергетычна-тэлевізійным апаратам, вечнажывучым, здольным да паразумлення з усёй бязмежнай Усяленнай. Усяленная кіруецца электрычнасцю, а рухавіком яе з'яўляецца электрычная пара. Бязмернасць Усяленнай запоўнена эферычнай імглою».

Няма што, Раман С. не належыць да людзей, якія нічога ніколі не чыталі, не слухалі, не вывучалі. У яго «трактаце» поўна слоў і сказаў зачэрпнутых з рознага тыпу вучоных кніжак. Толькі, як мог ён не зразумець, што над адкрыццём «праў кіруючых усяленнай» працуе сёння дзесяткі і сотні тысяч вучоных, карыстаючыхся аграмаднымі лабараторыямі і тэхнічнымі абсталяваннямі. У арганізаваным свеце арганізаванай навукі няма месца для адзінокіх «сялянскіх філосафаў» і розных самавучкаў.

Але пераконваць Рамана С. у тым ужо запозна. Раман С. страціў на свае выдумкі 40 гадоў, страціў, уласна кажучы, усё сваё жыццё, і цяпер не астанецца яму нічога іншага, як пісаць заявы па судах ды розных іншых установах, патрабуючы прызнання для гэтых выдумак. Астанецца да смерці даволі тыповым «сялянскім дзіваком», які адкрыў свету свае даволі асаблівыя «праўды».

**Рыгор Паўлюк**




# УГНАЕННІ

Вядома, што Сейм прыняў пастанову, якая накладае на кожнага гаспадара абавязак прымянення штучных угнаенняў у гаспадарцы. Дык зашумела ў вёсках. Кругом чулася адно толькі слова: угнаенні.

— Угнаенні — добрая рэч, — мала добрая: гэта цудоўная рэч!

Так сказаў мне гаспадар з вёскі Грыгораўцы ў Бельскім павеце — Ян Крот. Да іх я адношуся з поўным даверам. На працягу амаль 10 год Ян Крот пад апекай інструктараў з Інстытута апрацоўкі зямлі, угнаення і глебазнаўства праводзіў розныя вопыты са штучнымі ўгнаеннямі. Ён ведае сваю справу.

— Толькі з угнаеннямі, — дадаў ён, — як з лякарствам: нельга замала і дрэнна замнога. Добра трэба ведаць, калі што даваць.

— А як вы гэта робіце? — пацікавіўся я.

— Як я раблю? — задумаўся гаспадар. — Для прыкладу вазьму жыта. Сеяў я «влошаноўскае». Яно ў мяне ў гэтым годзе дало ўраджай у 27—28 цэнтнераў з аднаго гектара. У нашым раёне, дзе зямля гліністая, жыта «влошаноўскае» найлепш удаецца. Жыта найчасцей сею я пасля аўса, або нейкай іншай ярыны. Рэдка калі пасля бульбы. Бульбянік адводжу пад пшаніцу. Дык падворваю аўсяную пожню і зараз жа прымяняю штучныя ўгнаенні. Калі пералічыць на адзін гектар, дык у мяне атрымоўваецца: 200 кілаграм суперфасфату, 200 кг патасовай солі і 50 кг. азатняку. Гной жывёлы даю толькі пад бульбу. Няма патрэбы часта яго прымяняць. Калі поле пасля ярыны вельмі слабое, дык фасфаровага і патасовага ўгнаення даю на сто кілаграмаў больш.

— А чаму вы так мала даеце азатняку?

— З азотавым угнаеннем трэба быць асцярожным. Вось у Сухавольцах (гэта суседняя вёска) прымусілі гаспадароў купіць высокія дозы азатняку. А гаспадары, не вядомыя справы, не пашкадавалі яго пад авёс. Дык ён не паспеў нават выкаласіцца, весь вылажыла. Сяляне ўзнялі шум. Звозілі на поле розныя камісіі. Але што ж паможа камісія, калі было ўжо запозна на якуюнебудзь дапамогу. Прыйшлося скасіць гэты авёс на пашу, як сена. Я азотавыя ўгнаенні раздзяляю на дзве, а часам і на тры дозы. Першую дозу, як ужо гаварыў, высяваю восенню. Рэшту пакідаю на весну. Азот спрыяе росту расліны. Дык уважна я прыглядаюся, як расце ў мяне збожжа. Калі яно слабаватае, калі сцяблінкі тонкія, жаўтаватага колеру, дык пагалоўна падсыпаю азатняку. Калі жыта здаровае, расце добра, дык не спяшаюся. Чакаю да моманту, калі яно пачынае каласіцца. Высяваю тады пагалоўна па 50—70 кілаграмаў азатняку на адзін гектар. У салому ён ужо не паспее пагнаць, а на калоссе, на яго рост шмат паможа. Аб гэтым варта памятаць. А вось у гэтым годзе атрымалася ў мяне цікавая рэч з пшаніцай. Пасеяў я азімую «куяўянку». Перад пасевам даў 300 кг суперфасфату, 200 кг патасовай солі і 100 кг азатняку на адзін гектар. Гной жывёлы даваў я ў папярэднім годзе пад бульбу. Пшаніца ўзышла і зазелянілася вельмі добра. Аднак не вытрымала марозу. На весну я аж спалохаўся. З маёй пшаніцы нічога не асталося. Хацеў ужо прыворваць і садзіць там буракі, пашкадаваў аднак. Пагалоўна падсыпаў яшчэ па 180 кг патасовай солі і суперфасфату ды 150 кг амонавай салітры. Затым забаранаваў усё, каб узрушыць заскарупелую зямлю і з непакоем чакаў вынікаў. І ведаеце што, мая пшаніца аджыла. Праўда, яна была вельмі рэдкая, аднак расла буйна. Намалаціў я звыш 30 цэнтнераў з аднаго гектара.

Гэты вопыт можа прыдацца іншым гаспадарам, асабліва цяпер, калі снег прыкрыў азіміну, калі невядома, як яна вытрымае лютую зіму.

**М. Нурэцкі.**

# КРАЎЦОЎСКАЯ АРЦЕЛЬ

Як нас паведамілі, у краўцоўскай арцелі ў Міхалове працуе зараз каля восемдзесят асоб. У выніку разбудавання арцелі мільёнавым коштам атрымае ў ёй працу яшчэ больш ста асоб. Будзе яна адным з сур'ёзнейшых прадпрыемстваў у гэтым мястэчку.

У Міхалове існуе краўцоўская майстэрня пад кіраўніцтвам Уладзіміра Трусевіча, дзе з пазапрадукцыйных танных абрэзаў можна пашыць недарагі, але добры касцюм. Працуе пяць асоб. Перспектыва развіцця гэтай маленькай, але папулярнай арцелі вяжацца з пабудаваннем новага будынка Грамадскай радзе, якая намерана свой стары будынак адступіць на майстэрню, кіраваную Трусевічам. Тады магло б працаваць у ёй каля дваццаці асоб. У Грамадскай радзе сказалі мне, што новы будынак напэўна будзе, і стары будынак напэўна перакажуць на майстэрню. Вядома, станецца гэта няхутка, можа за год-два, але пэўнасць муравамая. Патрэбна цярплівасць. (ся)

**Фота Цаф — Р. Сянько**



Краўцоўская арцель.



Швачка Тамара Астравецкая.



Яанна Гутнік за работаю.

## Літаратурныя гульні

**ВІКТАРЫНА № 2**

Беларускія пісьменнікі і паэты ў сваіх творах стварылі шмат яркіх, запамінальных вобразаў.

Па дадзеных урыўках успомніце і напішыце нам назву твора і прозвішча аўтара. Як дадатковае заданне, за што прадбачваецца дадатковая ўзнагарода, напішыце, каго характарызуюць радкі.

1) Невыдумная світка, — убор на плячах,
Барада, як снег белы такая
Незвычайны агонь у задумных вачах...

2) Быў Лаўрэн прысадзісты, каржакаваты стары. Нягледзячы на шосты дзесятак гадоў, быў у яго румянец ва ўсю шчаку і белы часнок здаровых зубоў, хаця барада сівела дымам.

3) Славен, грозен і ты, і твой хорам-астрог,
Б'е ад сцен-цэгел лёдам зімовым;
Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,
І душу — як скляпоў тэтых сховы.

4) А сам дырэктар, з вузел ростам,
У сваім уборы бедным простым,
У зрэбных портках і кашулі,
Стаяў, як бы яго прыгнулі,
Такім мізэрным і маўклівым,
У халаце суконным сівым.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: **Redakcja tygodnika «Niwa», Białystok, ul. Wesołowskiego 1. да 25 снежня 1969 года.**

Сярод тых, хто прышле правільныя развязкі, разлясуем кніжныя ўзнагароды.

Развязка з папярэдняй загадкі з № 48 ад 30 лістапада 1969 года:

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава, Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

## Ці ведаеце што...

...маці Янкі Купалы памерла толькі на два дні пазней за сына. Ён — 28 чэрвеня ў Маскве, а яна — 30 чэрвеня ў Мінску.

...першы зборнік апавяданняў Якуба Коласа выйшаў у выдавецтве «Прамень» у Вільні ў 1912 годзе.

...Янка Купала ў пачатку творчасці і пасля пісаў вельмі многа і лёгка. Ён мог за адзін дзень напісаць 200—300 вершаваных радкоў і рэдка калі выпраўляў.

...першай выканаўцай ролі Паўлінкі з аднайменнай камедыі Янкі Купалы была Паўліна Мядзёлка. Выконвала яна гэтую ролю ў 1913 годзе ў Пецярбургу. Потым яна была настаўніцай. (а-к)

Адказваем

# ЧАМУ

Прыходзяць у рэдакцыю пісьмы, у якіх чытачы пытаюцца, чаму мы змяшчаем праграму мінскага тэлебачанння толькі на тры дні, і патрабуюць тыднёвай праграмы.

Згаджаемся з чытачамі, ды не пад сілу нам змяніць становішча. Мінскую праграму бярэм мы з мінскіх газет. У суботніх выданнях маюць яны тыднёвую праграму. Гэтыя выданні прыходзяць да нас у панядзелак, а часам у аўторак, а то і ў сераду, і не заўсёды паспяваем даць праграму і на гэтыя апошнія тры дні («Ніва» друкуецца ў сераду, падпісваецца да друку ў аўторак). А з увагі на тое, што наш тыднёвік паступае ў распаўсюджванне ў пятніцу, няма сэнсу змяшчаць праграмы за папярэднія дні тыдня. Проста, трэба было б мець гэтую праграму раней. На жаль, такой магчымасці мы не маем.

## ЗА КУЛІСАМІ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

**Мы друкуем расказ аб адным эпізодзе, які адносіцца да пачатку другой сусветнай вайны. Італьянскі журналіст А. Петака запісаў яго са слоў адстаўнога брытанскага дыпламата Генры Мілінгтона-Дрэйка. Былы пасол урада «яго вялікасці» ва Уругваі прыпісвае сабе славу «патапіцеля» германскага лінкора. Магчыма, гэта так і было: скрыжаваліся спрытнасць брытанскай дыпламатыі і магутнасць фашысцкага лінкора. Брытанцы выйшлі пераможцамі.**



# ЯК БЫЎ ПАТОПЛЕН „ГРАФ ШПЕЕ"

З самага пачатку вайны германскі «кішэнны» лінкор Граф Шпее» перасякаў акіяны, займаючыся самым сапраўдным марскім разбоем. На яго рахунку было дзевяць патопленых брытанскіх суднаў агульным водазмяшчэннем 60.000 тон. Камандзір часта мяняў флаг, маскіраваўся, выкарыстоўваў камуфляж і іншыя трукі і нават мяняў сілуэт свайго карабля, дадаючы або ўбіраючы бутафорскія надбудовы і трубы. У сярэдзіне снежня 1939 года лінкор увайшоў у порт Мантэвідэо, каб ліквідаваць некалькі прабоін і пахаваць трыццаць шэсць маракоў, забітых у апошнім баі з англічанамі.

МІЛІНГТОН-ДРЭЙК: Калі позна вечарам 13 снежня 1939 года «Граф Шпее» ўвайшоў у порт, мне як брытанскаму паслу давялося «заняцца» караблём, за якім наш флот ганяўся на працягу чатырох месяцаў. У моры дагнаць яго было немагчыма, а да берагу ён ніколі не падыходзіў: германскі танкер «Альтмарк», які хадзіў пад рознымі флагамі, сустракаўся з лінкорам у адкрытым моры, забяспечваў яго прадуктамі харчавання і палівам, забіраў здабычу і палонных з патопленых гандлёвых суднаў.

Калі я атрымаў паведамленне, што «Граф Шпее» сутыкнуўся непадалёку ад Рыа дэ Ла Плата з трыма нашымі крэйсерамі з эскадры камандора Харвуда, мне і ў галаву не магло прыйсці, што немцы вырашаць схавацца ў порце Мантэвідэо.

Паводле Версальскага мірнага дагавору, Германія магла будаваць судны водазмяшчэннем не больш як 10.000 тон; немцы ўзброілі лінкор шасцю 280-міліметровымі гарматамі і шаснаццаццю гарматамі меншага калібру, абшылі яго бранёй і не перавысілі ўстаноўлены танаж.

МІЛІНГТОН-ДРЭЙК: «Граф Шпее» ўвайшоў у порт, не запальваючы агнёў і не запатрабаваўшы лоцмана. Я тэрмінова паведаміў аб гэтым у Лондан і атрымаў указанне запатрабаваць ад уругвайскага ўрада, каб у адпаведнасці з Гаагскай канвенцыяй 1907 года карабель заставаўся ў порце не больш як 24 гадзіны. Прад'яўляючы гэта патрабаванне, я, зразумела, яшчэ не ведаў, што адбылося ў гэты дзень на моры.

На «Графе Шпее» заўважылі англійскія крэйсеры «Аякс», «Ахілес» і «Ікзетэр» у 6 гадзін раніцы. Тэарэтычна «Граф Шпее» мог весці агонь па праціўніку, сам застаючыся недасягальным. Лангсдорф вырашыў прыняць блізкі бой. Першым быў выведзен са строю «Ікзетэр», затым пацярпеў «Аякс», але пры гэтым і «Граф Шпее» атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні; нямецкаму карсару давялося пакінуць поле бою і ўзяць курс на Мантэвідэо.

МІЛІНГТОН-ДРЭЙК: Усю ноч немцы напружана працавалі, стараючыся ліквідаваць пашкоджанні. Тым часам германскі пасол дабіваўся, каб караблю прадставілі права прыстанішча на 15 дзён. Усё гэта было мне на руку.

Камандзір брытанскай эскадры Харвуд разумеў, што, калі варожы лінкор будзе вымушан тэрмінова пакінуць порт, перавага ў сіле будзе на баку немцаў. Таму ён прыслаў радыёграму з просьбай рабіць усё магчымае, каб затрымаць «Графа Шпее» ў Мантэвідэо да падыходу падмацаванняў з Гібралтара.

МІЛІНГТОН ДРЭЙК: Мне давялося даць задні ход. Я стаў лагодным да патрабавання немцаў. Ім патрэбен час? Калі ласка, колькі хочаце. Але тут занепакоіўся ўругвайскі ўрад, запатрабаваўшы хутчэйшага выхаду «Графа Шпее»: яго прысутнасць пагражала ўскладненнямі нейтральнай дзяржаве. Лангсдорфу было прапанавана пакінуць порт да 20 гадзін 17 снежня.

Мы разумелі, што германскі лінкор будзе імкнуцца вырвацца з пасткі, а на тое, што паспеюць падысці выкліканыя з Гібралтара лінкор «Рынаун» і авіяносец «Арк роял», разлічваць не прыходзілася, і ніякай надзеі на перамогу ў баі з «Графам Шпее» ў нас не было. Заставалася толькі якім-небудзь спосабам пераканаць немцаў, што нашы караблі атрымалі магутнае падмацаванне.

К вечару 16 снежня па партовых шынках Мантэвідэо папаўзлі чуткі аб буйных сілах англічан, якія наблізіліся да граніцы ўругвайскіх тэрытарыяльных вод.

Чуткі гэтыя, зразумела, хутка дайшлі да германскага пасла і да камандзіра «Графа Шпее». Позна вечарам іх пацвердзіла агенцтва Рэйтэр, якое перадало па радыё афіцыяльнае паведамленне аб прыбыцці ў раён Мантэвідэо лінкора «Рынаун», авіяносца «Арк роял» і некалькіх крэйсераў.

Наступнай раніцай гэта паведамленне з'явілася на старонках паўднёваамерыканскіх газет. Усе ўжо лічылі, што варта «Графу Шпее» пакінуць порт, як яго зараз жа патопяць.

Для Лангсдорфа настаў цяжкі момант: выстралам з брытанскага карабля быў знішчан адзіны самалёт «Графа Шпее» і цяпер ён не мог зрабіць разведку з паветра.

У другой палавіне дня 17 снежня Ганс Лангсдорф сышоў на бераг і, пазваніўшы з германскага пасольства ў Берлін, далажыў абстаноўку. Які загад ён атрымаў з Берліна, ніхто не ведае, бо ён ні з кім аб гэтым не гаварыў. І ўсё ж няцяжка здагадацца, што яму загадалі патапіць карабель, не чакаючы, пакуль гэта зробяць англічане.

Так яно і было. У 19 гадзін 30 мінут гіганцкі выбух скалануў Мантэвідэо. Ахутаны дымам «Граф Шпее» пайшоў на дно. Карабель, які Гебельс ахрысціў «марскім тыграм», палічыў за лепшае не бой, а самазабойства.

Грукат выбуху данёсся і да англійскіх крэйсераў, якія патрулявалі ў моры. Камандзір Харвуд уздыхнуў з палёгкай: падман удаўся.

У тую ж ноч у Буэнас-Айрэсе, дзе знайшоў прыстанішча экіпаж «Графа Шпее», Ганс Лангсдорф пусціў сабе кулю ў лоб.

Нямецкая прапаганда паведаміла, што Лангсдорф не змог перажыць свой карабель, але хацеў спачатку паклапаціцца аб выратаванні экіпажа.

Куды больш праўдападобна, што ён прыняў рашэнне аб самазабойстве, толькі зразумеўшы, які жарт падстроілі яму англічане. Ды і сам германскі ўрад, відавочна, думаў гэтак жа, бо адразу скараціў размеры дапамогі сям'і капітана, спаслаўшыся на тое, што «самазабойства Ганса Лангсдорфа было не ваенным подзвігам, а толькі актам асабістага пратэсту».

**А. Петака**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Гарачыя рэкі**

Пётрапаўлаўск-Камчацкі. (ТАСС). Гарачую раку вывелі на паверхню заснежаных сопак буравікі Камчацкага паўвострава. Шчыліна падае з глыбіні 300 метраў ваду з тэмпературай 72 градусы.

Гарачая вада прызначана для развіцця цяплічных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, цеплафікацыі пасёлкаў, у якіх жывуць карэнныя жыхары тундры — эвены, каракі, чукчы.

Камчацкі паўвостраў пранізваюць сотні падземных гарачых рэк, якія награваюцца цяплом дзеючых вулканаў. Геолагі ўжо вывучылі 116 груп тэрмальных крыніц. Даследванні працягваюцца.




**Тлустыя валасы**

Нават вельмі тлустыя валасы не трэба мыць часцей аднаго разу ў тыдзень, таму што ад частага мыцця або ўжывання прэпаратаў, якія змяшчаюць спірт, сальныя залозы раздражняюцца і пачынаюць выдзяляць яшчэ больш скурнога сала. Дзейнасць сальных залоз можа рэгулявацца масажам карэнняў валасоў, які павінен працягвацца 10—15 мінут. Падушачкамі пальцаў (ні ў якім разе пазногцямі) моцна расціраюцца карэнні валасоў. Штодзённае расчэсванне валасоў шчоткай некалькі разоў запар ад карэнняў валасоў да самых канцоў ва ўсіх напрамках таксама дае добры эфект. Пры расчэсванні валасы трэба падымаць, а не залізваць. Трэба ўжываць шчотку са шчаціння, а не жалезную або нейлонавую.

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



**Вопратка для адпачынку (па народных матывах). Фота В. Казлова**

## Чвэрць стагоддзя назад




**ГОЛЬДАП**

На трэція суткі на світанні група выйшла ў раён горада Гольдапа. Кіраваліся да аблюбаванага на карце лесу, каб спыніцца на днёўку, адпачыць, падсілкавацца і, калі дазволяць абставіны, прасушыцца, бо ўсе дні ішоў дождж. Нам засталося прайсці якіх-небудзь метраў сто негустым хмызняком, як з лесу насустрач нам выйшаў чалавек. З-за правага пляча яго тырчала вінтоўка. Нам вельмі хацелася, каб ён прайшоў міма, не заўважыўшы нас, бо адразу ж выдаць сваё месцазнаходжанне — гэта значыць выклікаць узмоцненыя прачэскі лесу і аблавы. Мы залеглі.

Пакашліваючы, чалавек ішоў павольна, ці мо нам так здоўжылася, чакаючы. Ішоў проста на нас. Давялося затрымаць яго. Гэта быў зусім стары чалавек. Дрыжыкі калацілі яго — ці то ад страху, ці то ад холаду. Ён вельмі ж шкадаваў, што натрапіў на нас.

— Я ўсю ноч знарок моцна кашляў і ляпаў у далоні, тупацеў нагамі, каб толькі адпудзіць прывіды, — у роспачы гаварыў ён. — І трэба ж так здарыцца, што набрыў на вас! Ды што тут гаварыць, усім, усёй Прусіі вядома, хто вы і адкуль.

Падышлі да лесу. Стары паказаў месца сваёй «засады».

— Такая кляча, а зямлю выбіў, як малады жарабец, — прабурчаў Аўчароў.

— Цяпер усе мы пільнуем вас дзень і ноч. Заўчора загад такі паступіў ад самога шэфа паліцыі Лемке, каб прызначалі на дзяжурства ўсіх цывільных жыхароў, — тлумачыў стары. — Вось і мяне прымусілі. Няма цяпер тут, у Прусіі, для вас месца. Тут усе супраць вас. Пасты і пасты кругом. Уся Прусія ў пастах. Жандары, салдаты на пастах. А цяпер вось і мы на пасту.

— Здымаю цябе, стары, з паста, — упершыню за многа дзён усміхнуўся Шпакаў.

Мы паглыбіліся ў лес і спыніліся, каб агледзецца, выбраць утульнае месца: патаемнае і ў той жа час, каб хоць праз верхавіны дрэў, адкрытае сонцу, калі распагодзіцца. «Зняты з паста» Шпакавым немец упаў на калені і, выцягнуўшы перад сабой рукі, узмаліўся:

— Я не вінаваты!.. Я ні ў чым не вінаваты... — Ён, відаць, рашыў, што мы расстраляем яго. — Мяне прымусілі дзяжурыць... Усіх прымушаюць. — Яго белая, з сінім адлівам рэдкая барада дрыжала. — Пашкадуйце маіх унучак. Іх у мяне дзве: Анна і Мары. Адной сем. Другой чатыры гады. У іх няма бацькі. Ён — мой сын — загінуў. У Расіі загінуў... Унучкі чакаюць мяне... Я павінен вярнуцца, абавязкова павінен... Чуеце! — зрываўся ён на лямант.

— Ціха ты! — прыкрыкнуў Шпакаў.

Стары крыху супакоіўся, апусціў рукі.

— Я нікога не бачыў. Нічога нікому не скажу. Я буду маўчаць, як рыба. Хай мне адсохне язык, калі кажу няпраўду! Я павінен вярнуцца да сваіх унучак. Прашу вас...

— Няхай ідзе. На чорта ён нам здаўся! — пашкадавала старога Аня.

— Вечарам адпусцім, — адказаў Шпакаў.

Стары перажагнаўся.

— Вось дзіва — глядзіце! Я думаў, што сярод гэтых вылюдкаў няма набожных. А гэта немец і — жагнаецца! — дзівіўся Зварыка, які паспеў ужо прылегчы пад елкай, выпраставўшы сваю хворую нагу.

— Адно другому не шкодзіць, — запярэчыла Зіна.

— Мае продкі — літоўцы. Вы чуеце — літоўцы! — нібы зразумеўшы сэнс гаворкі Зіны і Зварыкі, тлумачыў стары.

— Спынімся тут, — распарадзіўся Шпакаў, не звяртаючы ніякай увагі на апошнія словы старога.

Мы прыселі, прыляглі, мосцячыся ямчэй пад кустамі. Моцна мучыла смага. Хоць ад вады, як гаворыцца, не было куды дзецца, суткамі моклі пад дажджом, але, калі флягі апусцелі, напіцца не было адкуль. З лужын піць небяспечна — можна захварэць, а хвораму тут не толькі ніякага лячэння, але не будзе ніякага і паратунку. Раса буйнымі кроплямі звісала на галінках, на лісці, жывымі пацеркамі дрыжала на траве. Генка сарваў некалькі галіністых сцяблінак і, задраўшы галаву, абсыпаў кропелькі расы сабе ў рот. Але хіба такім спосабам нап'ешся ці смагу прагоніш! Атрымлівалася, як у той казцы: кроплі вады мачылі губы, па барадзе цяклі, а ў рот не пападалі. Гэта толькі дражніла, яшчэ горш смага паліла грудзі, пякло ў горле.

Абапёршыся на тоўсты камень рэчавым мяшком, я падабраў пад сябе ногі, заціснуў паміж каленямі аўтамат і хутка забыўся і пра голад, і пра смагу, і пра ўсё на свеце. Адолеў сон.

Не ведаю, колькі я спаў. У сне мяне стала нешта моцна тузаць, а потым балюча стукнула ў бок. Ды я ніяк не мог прачнуцца — хацеў, а не мог. І толькі, калі мяне паваліла на бок, я расплюшчыў вочы. Адразу ж убачыў старога, які сядзеў амаль побач. А тузаў мяне з усёй сілы Генка Юшкевіч.

# ТРЫБУНА чытачоў

## «ВІНО НА РАДАСЦЬ ДАНО»

Віно, патрэбны прадукт. Спажываецца яно на ўсіх пачастунках, урачыстасцях, спатканнях. Водка таксама добры прадукт. Але яе трэба піць у меру, піць разумна, дык тады нікому крыўды не будзе. У Паўночным Востраве, што на Сакольшчыне, многа п'юць усяго: і віна, і водкі. Віна заўсёды колькі хочаш у краме. Тут збяруцца кавалеры і мужчыны і пачынаюць весяліцца. І весяляцца так аж за поўнач, пакуль зусім не пакасеюць. Тут у краме водка не прадаецца. Вечарам спаткаецца ў краме кум з кумам, дык хацелі б выпіць водкі. Але яе няма, дык п'юць віно. Але калі ўжо абавязкова хочуць выпіць водкі, дык знойдуць. Па- суседску з крамаю жыве дзевяностагадовая старушка. Яна прадае яе па падвойнай цане. Дык можна піць колькі душа жадае і розум трымае. Да бабулькі ніхто з сялян не мае прэтэнзій за гэта. Але зноў яна мае да некаторых многа прэтэнзій. Яе часам крыўдзяць. А ёсць адзін такі забіяка, што часта купляе ў старушкі водку, падгледзіць, дзе яна хавае грошы, ды возьме і ўкрадзе іх. Зусім нічога не сароміцца трасца на яго. Крыўдзяцца таксама жоны на мужоў, што апоўначы прыходзяць дамоў, што цяжка запрацаваны грош прапіваюць ды яшчэ авантуруюцца. Крама сталася зборышчам, крама распівае людзей, бо яна адкрыта аж за поўнач. (см)

## РАДНЫ ДАЕ ПРЫКЛАД

Іван Леўша з Янова, што каля Нараўкі, з'яўляецца радным ГРН. На сесіях заўсёды праяўляе вялікую актыўнасць. З'яўляецца таксама прыкладным гаспадаром. Дзякуючы добраму ўгнойванню сваіх палёў атрымоўвае з аднаго гектара 19—20 цэнтнераў збожжа. Гэта не мала, калі зважыць тое, што зямля ў яго ў асноўным V класа. Праўда, ёсць трошкі і IV класа. Трымае Іван Леўша тры каровы і пародзістага быка. Кантрактуе жывёлу і збожжа. Дае прыклад аднавяскоўцам у тэрміновым рэалізаванні ўсіх гаспадарскіх абавязкаў. (хх)

## ГРАДАЛІ

Гэта вёска не малая,
За кіламетр даўжынёй,
А цікавая якая.
Дык што дзеецца ў ёй?
Ёсць тут крама і святліца,
У краме міла прадаўшчыца,
Заўжды там парадак ёсць,
Гэта скажа кожны госць.
Злеўня ёсць у нас таксама —
Малако тут прадаюць.
У Градалях кроснаў шмат,
Тут існуе выраб мат.
Кожны дзень, у кожнай хаце
Вытыкаецца па маце.

**Ганя Амельянюк**
**вучаніца 7 класа ў Градалях**

— Уцякай! — прыглушана і злосна шаптаў ён. — Немцы ж во!

Я і сам ужо агледзеў за некалькі дзесяткаў крокаў шэрую постаць пад накідкай. Увесь мой сон як рукой зняло. Мы кінуліся за елкі. Стары застаўся сядзець на тым жа месцы. Услед нам прагучалі аўтаматныя чэргі.

Перабягаючы лясную дарогу, заўважылі салдатаў з сабакамі. Думалі, за намі кінуцца, пусцяць сабак, таму, схаваўшыся за тоўстыя камлі, прыпыніліся, ускінулі аўтаматы. Салдат мы бачылі добра. Дзіўна, але яны, нібы не заўважыўшы нас, павольна падаліся ў адваротным напрамку. Потым мы часта былі сведкамі падобных выпадкаў, і тлумачэнне ім вельмі простае — ніхто не хацеў лезці пад кулі, ніхто не хацеў паміраць.

— Хутчэй, хутчэй! — прыспешваў Генка. — Нашы павінны быць недзе тут.

Калі мы дагналі сваіх, Шпакаў на хаду заглядваў на карту. Генка мне расказаў, як ціха падышлі немцы: заўважылі іх ужо зусім блізка.

— Добра, што мы іх угледзелі першыя. Шпакаў даў знак адыходзіць. Мы пабеглі. Потым я азірнуўся — а ты сядзіш на месцы. І стары немец каля цябе. Ну, я вярнуўся... Чуць раскатурхаў цябе. Ну, і спаў жа ты!.. — спяшаючыся, гаварыў Генка, быццам баяўся, што можа не паспець дасказаць.

З удзячнасцю я моцна сціснуў плячо свайго юнага сябра. Яшчэ момант — і немцы накрылі б мяне соннага. Маладзец Генка... **(Працяг будзе)**

## ПАРОДЗІСТАЯ ЖЫВЁЛА

У Дуброўскім павеце павятовая сельскагаспадарчая служба ўскладае шмат намаганняў на развіццё пародзістай, высокаякаснай жывёлы. У гэтым годзе продана сялянам 472 пародзістыя маладыя свінні і 110 свінаматак. У мінулым годзе задбана, каб сяляне мелі высокаякаснай пароды расплоднікаў. Раздзялілі сярод лепшых гаспадароў павета 22 бугаі, 96 кныроў і 161 барана. Пры пакупцы пародзістай жывёлы дзяржава дае пазыкі. Ітак, у 1968 годзе гэтыя пазыкі акрэсліваліся сумай 7700.000 зл. (мх)

## У ГАЙНАЎСКІМ ЛІЦЭІ

21-га лістапада г.г. у гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася акадэмія звязана з Днём настаўніка. Спачатку вучаніца III-га класа прачытала даклад. Моладзь ліцэя ўручыла сваім настаўнікам кветкі. Потым адбылася мастацкая частка, на якую скlaліся вершы і песні. Усім вельмі спадабалася руская песня «Каробушка» ў выкананні вучаніцы II-га класа Л. Скепка. Прыгожа ігралі на акардэонах вучні ліцэя Шварц і Дэнісюк. Кожнаму настаўніку была прысвечана песня.

**Люба Ярашэвіч**
**беларускі ліцэй у Гайнаўцы**

## ПР У ЛЕСНІКАХ

Да перадавых калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР) у Беластоцкім павеце адносіцца ПР у вёсцы Леснікі. Моладзь на сваім даследчым палетку ў пераліку на 1 га атрымала 600 цэнтнераў цукровых буракоў. У нас такія ўраджаі лічацца рэкорднымі. **(сс)**

## ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Дзякуючы каштоўнай ініцыятыве жыхароў паасобных вёсак многа чаго зроблена грамадскай працай. Напрыклад, у Курашаве і Моры на Гайнаўшчыне па ініцыятыве кіраўнікоў школ зараз разбудоўваюцца школьныя памяшканні. (см)

## НЕ ПАГРАЖАЕ

У Дубінах каля царквы быў круты паварот. З-за хатаў не было відаць над'язджаючага самахода, матацыкла ці фурманкі. У гэтым месцы было многа выпадкаў.

Нядаўна дарожныя ўлады ліквідавалі гэты круты паварот. (мс)




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 18 год. Жыву і працую ў горадзе. Нядаўна мая сяброўка выходзіла замуж. Я была на вяселлі. Там пазнаёмілася з хлопцам з чужой вёскі. Ён мне вельмі спадабаўся. Я выбрала яго на свайго дружбанта. Але Янка не звяртаў на мяне вялікай увагі. Яму спадабалася хіба больш за мяне другая дзяўчына, якая таксама была на вяселлі. Яна ўвесь час і сядзела пры Янку. А калі мы пайшлі на забаву, Янка затанцаваў некалькі танцаў са мной і дагаварыўся на сустрэчу. Але потым ён пазнаёміўся на забаве з іншай дзяўчынай, якая хіба яму найлепш падабалася, бо танцаваў з ёю ўвесь вечар. На другі дзень памятаў аб нашай сустрэчы і яшчэ раз прасіў мяне, каб я напэўна прыйшла. Не ведаю, што рабіць. Янка мне вельмі падабаецца, а не магу проста аб ім забыцца. Але калі падумаю, як ён танцаваў з іншай дзяўчынай увесь вечар, дык не магу яму даравaць. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць? Ісці, ці не? Ён будзе чакаць.

**Марыся з Б.**

**Марыся!** Калі Янка табе так моцна падабаецца, дык нічога не перашкаджае пайсці на сустрэчу з ім. З лісту твайго відаць, што хоць ты і просіш парады, аднак і без яе напэўна вышла б ты на гэтую сустрэчу. Тады не думай аб тым, што ён танцаваў з іншай. Мо таму, што быў падхмелены, вядома як на вяселлі, тады і не выбіраў. Аднак важна хіба і тое, што на другі дзень ён прыпомніў табе аб сустрэчы, відаць, яму на гэтым залежыць.

**Жадаю ўданай сустрэчы**
**Сэрцайка**

З нагоды дня настаўніка

## У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

Дзень настаўніка, які адзначаўся ў нас у Бельску 21 лістапада, меў асабліва святочны і ўрачысты характар. Ва ўсіх школах праводзіліся ўрачыстасці, а таксама танцавальныя вечарыны. Вельмі святочна адзначаў гэты дзень бельскі беларускі ліцэй. Пасля пятага ўрока вучні разам з настаўнікамі сабраліся ў фізкультурнай зале, якая была старанна ўпрыгожана.

На пачатку заспяваў школьны хор «sto lat» нашым настаўнікам. Затым вучаніца III класа Яўгенія Такарэўская ў некалькіх словах прывітала настаўнікаў, а таксама падкрэсліла значэнне нашай урачыстасці. Пасля вучні ўручылі настаўнікам кветкі. На нашу школьную ўрачыстасць злажылася многа розных песень і вершаў звязаных з гэтым жа днём. Найбольш за ўсё нам спадабаўся верш на нямецкай мове «Zum Lehrertag», які быў адразу перакладзены на польскую мову. Верш гэты прыгожа прачыталі вучаніцы Мар'я Парфенюк і Яўгенія Юшчук.

Урачыстасць спадабалася не толькі нам, але і нашым настаўнікам, бо ў гэтым жа часе на іх тварах было відаць радасць і ўсмешку.

На заканчэнне дырэктар ліцэя Мікалай Гайдук выказаў глыбокую падзяку вучням, якія так добра адзначылі гэты дзень і ацанілі так цяжкую настаўніцкую працу.

**Вера Ахрымюк**
**бельскі беларускі ліцэй**

## 10-ГОДДЗЕ СПР У БЕЛЬСКУ

Школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Бранску нядаўна адзначала 10-ую гадавіну свайго існавання. Школа шмат моладзі падрыхтавала да прафесіі селяніна. Яна таксама ўздзейнічала на ўзровень сельскагаспадарчай вытворчасці ў сваім асяроддзі. У гэтай школе вялікую ўвагу прысвячаюць да арганізавання дыдактычных і турыстычна-краязнаўчых экскурсій. Навучэнцы школы наведалі многа сельскагаспадарчых школ, азотны камбінат у Пулавах, стадніну коней у Янове, пабывалі ў многіх мясцовасцях Польшчы.

На базе гэтай школы створана Засаднічую сельскагаспадарчую школу. Цяпер ужо кіраўніцтва школы думае аб пабудове спецыяльнага выгоднага школьнага будынка.

**Веслаў Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## ЗУБРА-КАРОВЫ

У Белавежскай пушчы вучоныя Польскай Акадэміі навук праводзяць цікавыя доследы з зубрамі. Яны кароў пакрываюць зубрамі. Гэтае скрыжаванне дае цікавыя вынікі. Патомства зусім падобнае да звычайных сялянскіх кароў. Але яны толькі выглядам падобныя. Вельмі грозныя. Яшчэ ніхто іх не пагладзіў. Гвалтоўна кідаюцца на чалавека. Ёсць у рэзерваце з такога скрыжавання агромны чорны бык, які значна перавышае велічынёй белавежскіх зуброў. Доследы гэтыя праводзяцца пад кіраўніцтвам кіраўніка запаведніка Малгажаты Красінскай. Белавежскі інстытут доследаў млекакормячых ПАН, які ўзначальвае дацэнт доктар Здзіслаў Пуцэк, вядзе шмат іншых цікавых доследаў у Белавежы. (см)

## МІЛЕЙЧЫЦКІ ГОК

Мілейчыцкі грамадскі цэнтр культуры (ГОК) пад кіраўніцтвам члена Галоўнага праўлення і члена прэзідыума Сямяціцкага аддзела шырока разгортвае культурна-асветную дзейнасць. Арганізуюцца тут вечарыны, акадэміі, «згадуй-згадулі». Нядаўна адбылася згадуй-згадуля звязаная з 100-ай гадавінай нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. ГОК цесна супрацоўнічае з мясцовым аддзелам БГКТ. Супольна арганізуюцца ўсе мерапрыемствы. Супольна будзе праводзіцца конкурс на беларускую песню ў рамах IX конкурсу на савецкую песню. Нядаўна тут утвораны гурток мандаліністаў, якім кіруе настаўніца беларускай мовы Тэкля Вашчук. З'яўляецца яна членам ГП і членам праўлення Сямяціцкага аддзела БГКТ. Адбыліся ўжо першыя рэпетыцыі. Жадаем поспехаў музычнаму гуртку. (хм)

Konkurs pamiętnikarski ZG ZMW i „Nowej Wsi"

## MOJE ŻYCIE W PGR

**Zarząd Główny ZMW i redakcja tygodnika „Nowa Wieś" ogłosiły wielki konkurs pamiętnikarski pn. „Moje życie w PGR". Do udziału w konkursie jego organizatorzy proszą robotników, brygadzistów, kierowników i dyrektorów, magazynierów, urzędników oraz wszystkich innych pracowników państwowych i spółdzielczych gospodarstw rolnych. Na podstawie prac pamiętnikarskich, szczerych i prawdziwych, pragną oni uzyskać bogaty materiał dotyczący przeszłości i dnia dzisiejszego gospodarstw uspołecznionych, których znaczenie w naszym kraju szybko wzrasta.**

**Organizatorom konkursu zależy na wypowiedziach dotyczących gospodarstw oraz osobistych doświadczeń i poglądów autorów pamiętników. Powinny to być prace dotyczące całokształtu spraw jakże bogatego i barwnego życia w PGR.**

**Autor najlepszego pamiętnika otrzyma w nagrodę 10 tysięcy złotych. Ponadto przewidziano dwie II nagrody po 6 tys. zł, trzy III po 3 tys. zł, oraz 10 wyróżnień po tysiącu zł. Pamiętniki należy nadsyłać pod adresem „Nowej Wsi" (Warszawa, ul. Wiejska 17) w terminie do 15 marca 1970 r.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 16—17. „Jej siedem wieczorów" (czeski), 18—19. „Czerwone i złote" (polski), 20—21.

**Дубіны**
„Ostatnie dni" (polski), „Kapryśne lato" (czeski), 20—21.

**Нараўка**
„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 17—21.

**Нарва**
„On nie chciał umierać" (radz.), „Zakochana wiedźma" (włoski), 17—21.

**Чыжы**
„Maskarada szpiegów" (angl.), „Manewry Dniepr" (radz.), 17—21.

**Дубічы Царкоўныя**
„Dr Crippen przed sądem" (angl.), 17—21.

**Арэшкава**
„Testament gangstera" (franc.), „Tak się zaczęło" (NRD), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Umarli milczą" (NRD), 17—21.

**Орля**
„Cena strachu" (franc.), „Gorzkie życie" (włoski), 17—21.

**Райск**
„Start" (belg.), „Wiryneja" (radz.), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wiryneja" (radz.), „Czerwone i złote" (polski), 17—21.

**Міхалова**
„Leśna symfonia" (radz.), 16—17. „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 18—19. „Przygoda z piosenką" (polski), 20—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), 16—17. „Miłość i jazz" (szwedzki), 18—19. „Brat dr Homera" (jugosł.), 20—21.

**Янаў**
„Jezioro starej sowy" (NRD), 17—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), 16—17. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 18—19. „Pomyłka szpiega" (radz.), 20—21.

**Мельнік**
„Żyrafa w oknie" (polski), 16—17. „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 18—19. „Przygody z piosenką" (polski), 20—21.

**Мілейчыцы**
„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), 16—17. „Stawka większa niż życie" (polski), 18—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Stawka większa niż życie" (polski), 17—21.

**Новы Двор**
„Skrzydła października" (radziecki), „Miłość blondynki" (czeski), 20—21.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7023

# ТЭЛЕФОН

Начальнік Куска найперш застыў, потым зрабіўся фіялетавы, урэшце збялеў.

— Тттак, пане міністр... — прашаптаў збялелымі вуснамі і адлажыў трубку.

Калі хвіліну потым у пакой заглянуў кіраўнік Банашак, начальнік Куска, яшчэ з памутнелым позіркам, сказаў:

— Але і даў мне! Божачка!..

— Хто? — зацікавіўся кіраўнік Банашак.

— Міністр. Па тэлефоне.

— Сам міністр? Асабіста цябе аблаяў? — усклікнуў кіраўнік, а ў яго вачах засвяціліся захапленне і зайздрасць.

— Асабіста. За гэты цыркуляр, што я падпісаў. «Адкуль вы ўзялі гэту бязглуздзіцу?» — крычаў. — «Звар'яцець з вамі можна!» — крычаў і таму падобнае...

— Ну, ну, сам міністр! — не мог супакоіцца кіраўнік Банашак.

Не паспеў выйсці, з'явіўся ззяючы віцэ-дырэктар. Ветліва прывітаў начальніка Куску.

— Дык што? — пачаў з нескрытай цікавасцю. — Чуў, што званіў да вас міністр.

— Вось менавіта, званіў. Меў пэўныя заўвагі да апошняга цыркуляра. Не ўсё яму падыходзіць...

Пасля віцэ-дырэктара ўляцеў дырэктар і, паціснуўшы сардэчна руку начальніка Кускі, спытаў:

— Здаецца гаварылі вы з міністрам?

Начальнік Куска выгадней рассеўся ў крэсле і заявіў:

— Так, пагаварылі сабе. Міністр хацеў пракансультаваць мой апошні цыркуляр. І наогул пагаварылі крыху аб тым і сім...

Дома, вячэраючы, начальнік Куска кінуў мімалётам:

— Званіў сёння да мяне Сцяпан...

— Які Сцяпан? — спытала жонка.

— Як гэта які? Наш міністр. Пагутарылі аб становішчы ў экспарце і іншых асноўных праблемах. Ведаеш, так па-сяброўску, непасрэдна. Свой мужык наш Сцяпан, кажу табе!..

Заўтра начальнік Куска імчаўся да працы, бы на крылах. Сябры і начальства глядзелі на яго інакш, чым заўсёды. Вырас у іх вачах.

Сеў за сталом і прысунуў бліжэй да сябе тэлефон. За кожным гудком сэрца білася мацней. А вось зноў пазвоніць міністр?..

**М. Квяткоўскі**

— Забудзь аб паляванні, нарэшце пасядзіш дома...

# НІЎКА



— Ало, заапарк? Вы не сказалі, чым яго карміць.

### У ФРАНЦЫІ

— Абвінавачваемы, вы прысуджаецеся да штрафу ў 200 франкаў за знявагу дзяржаўнага служачага. Вы не хочаце чаго-небудзь дадаць?

— Хачу, — адказвае абвінавачаны, — але пры такіх цэнах... я ўжо не адважваюся.



Я выменяў яго на бацькаў касцюм.

### НАПІСАНАМУ НЕ ВЕРЫЦЬ

Сядзіць Заяц-Шарак на бензазліўстэрне і люльку смыголіць.

— Што ты робіш, браце? — падскаквае Бляк. — У паветра ўзляціць хочаш! Бачыш, напісана: «Не курыць!»

— А я напісанаму не веру. Разумееш, іішоў я аднойчы па вуліцы. Галодны, як воўк. Гляджу, а на плоце напісана: «Капуста». Кінуўся я да той капусты, дык толькі жывот абадраў.

**М. Мурашка**

### ДОБРА ВЕДАЕ

Жонка: — Не адмаўляйся. Я ж цябе наскрозь бачу. Піў?

Муж: — Ну, піў. Але калі ўжо ты так добра бачыш, скажы што?

### Галаваломка



Прадстаўлена на рысунку фігура складаецца са шматлікіх трохкутнікаў. Паспрабуйце іх падлічыць.

* * *

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:



### «РАШУЧЫ» ХАРАКТАР

У мяне характар строгі,
Праўда, стрыманы я трохі.
Хуліган, сыйдзі з дарогі,
А то ў ход пушчу я... ногі.

**М. Вяршынін**

### ЧАМУ

— Калі я быў малады, — расказвае славуты ўрач, — я хацеў стаць мастаком.

— Чаму ж вы здрадзілі сваёй мары і выбралі медыцыну?

— Бачыце, у жывапісе ўсе вашы памылкі застаюцца і пасля вас, тады як у медыцыне яны знікаюць разам з хворымі.



### У КНІГАРНІ

Нейкі пан звяртаецца да кнігапрадаўца:

— Я хацеў бы што-небудзь сучаснае, актуальнае, без напружвання дзеючых асоб і без усялякіх упрыгожванняў. Што-небудзь зразумелае, выразнае, кароткае, без лішніх дэталяў...

— Я, здаецца, зразумеў, што вам трэба, — перапыняе яго прадавец. — Купіце чыгуначны даведнік.

### У ГАСЦЯХ

Да скнарага чалавека прыйшлі госці. Іх трэба было пачаставаць.

— Калі б было масла, — сказаў ён, — можна было б напячы бліноў, ды мукі няма.

У другі раз ён пайшоў у госці. Яму сказалі:

— Калі б быў вугаль, можна было б ускіпяціць чай, ды вады няма.

### КУРЫЦЬ НЕЛЬГА

— У вагоне дазваляецца курыць толькі пры згодзе ўсіх пасажыраў, — сказаў праваднік.

— Але ж я адзін у гэтым вагоне!

— Пачакайце, пакуль збяруцца ўсе пасажыры, тады і папросіце дазволу.

### ВАЖКАЯ ПРЫЧЫНА

Старэнькі дзядок угаворвае маладую і прыгожую жанчыну выйсці за сябе замуж:

— Не разумею, чаму ты ўпіраешся і не хочаш выйсці за мяне замуж — я ж аліменты даўно ўжо не плачу.



— Ці жадаеце не ўзяць за жонку?..
— Так!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Яўгенія Врублеўскага з Міхалова, Беластоцкага павета, змяшчаем беларускую песню п.з.**

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Ой, бярозы ды сосны —
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты, лес малады!
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную
І успомню былыя гады.

Ды успомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных вятроў.
І слату, і нягоды,
І начныя паходы,
І агні партызанскіх кастроў.

Край любімы мой, родны,
Ты навекі свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі цвіў.

Адышлі тыя гады,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць.
Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць...

А там ужо зіма?

### ДЗВЕ ДАМЫ

Дзве дамы бачаць сабаку, да хваста якога прывязана каструля.

— Які жах! — гаворыць адна з дам. — Гэтыя хлапчукі проста невыносныя. Для іх няма нічога святога!

— Гэта ваш сабака? — спачувае другая.

— Не, але гэта мая каструля.



Касцюм для рэпарцёра




У Сінгапуры прайшоў конкурс на лепшы касцюм для газетнага рэпарцёра. Першую прэмію журы прысудзіла адзенню, якое ўключала пласцікавы шлем, «здольны вытрымаць удар кулаком або іншым тупым прадметам», спецыяльныя латы, што «не перашкаджаюць рухацца і лёгка апранаюцца пад пінжак». Нічога не скажаш, цяжка даводзіцца мясцовым рэпарцёрам.

### Думка спецыялістаў

Вядомы матэматык і філосаф Даламбер разам з адным славутым прафесарам права наведаў аднойчы Вальтэра. Прафесар захапляўся універсальнасцю ведаў Вальтэра і сказаў Даламберу: «Толькі ў пытаннях дзяржаўнага права я лічу яго крыху слабаватым». «А я лічу яго слабым у матэматыцы», — сказаў Даламбер.

Ну што ж, кожнаму сваё.

### Каровы ў фас і профіль

За апошні час у сялян зямлі Шлезвіг-Гальштэйн (ФРГ) часцей сталі красці жывёлу. У сувязі з гэтым паліцэйскія ўлады звярнуліся да іх з просьбай сфатаграфаваць сваіх кароў і быкоў у фас і профіль для спецыяльнай картатэкі, якая знаходзіцца ў горадзе Наймюнстэр. Пэўна, цяжка цяпер давядзецца злодзеям.




Існуе тры катэгорыі людзей: галодныя, сытыя і ненасытныя.